PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

№ 8 (2232) Год XLIV Беласток 21 лютага 1999 г. Цана 1,20 зл.

## У Бельску падчысцілі камісіі

Мікола Ваўранюк

**Калі б я быў усяго музейным беларусам, хадзіў у лапцях і рубашцы-вышыванцы, спяваў і танцаваў з прыдуркаватым выглядам перад дабрадзеямі, бы каліць Хрушчоў перад Сталіным, усё было б у парадку. Я не мяшаў бы нікому.**

Двух радных Павятовай рады Бельска-Падляшскага, насупраць сваіму жаданню, не ўвайшлі ў ніводную камісію рады. Не пусцілі іх туды, проста, іхнія калегі. „Stała się rzecz niespotykana w lokalnej praktyce samorządowej, — асведамляе грамадскую думку Бельская кааліцыя. — Nigdy do tej pory nie ograniczano radnemu możliwości pracy w komisjach rady. Koalicja AWS — Prawica Samorządowa „Jedność" w Bielsku Podlaskim zapisuje nowe, dotychczas nieznane samorządności lokalnej pola. W stosunku do najbardziej niewygodnych radnych z opozycji stosuje się metodę dyskryminacji, lekceważenia i izolowania w pracach rady".

Месца ў камісіях не хапіла якраз лідэрам Бельскай кааліцыі: рэкамендаванаму Саюзам левых дэмакратаў Юрыю Іванчуку і старшыні Беларускага выбарчага камітэта Васілю Ляшчынскаму. Абодва яны адчынялі выбарчыя спіскі Бельскай кааліцыі ў дзвюх акругах горада. Васіль Ляшчынскі атрымаў на выбарах 950 галасоў, найбольш ва ўсім Бельску. Раней два разы выбіраўся ў Гарадскую раду, якую апошнія чатыры гады ўзначальваў.

— Цаню дасведчанне пана Ляшчынскага ў самаўрадавай працы, — кажа старшыня Павятовай рады Бажэна Гратовіч. — Асабіста шкадую, што не ўвайшоў ён у ніводную камісію. Але што рабіць, так вырашыла рада ў тайным галасаванні?

— Я хацеў працаваць у дзвюх камісіях, — кажа Васіль Ляшчынскі, — у бюджэтна-фінансавай ды асветна-культурнай. Аднак мяне не дапусцілі. Лічу, таму, каб мяне панізіць. І то ў тайным галасаванні, бо яўна пабаяліся або пасароміліся. А тым часам у камісіі асветы толькі адна асоба, якая працавала ў школе і тая ўжо на пенсіі. Апошнія члены маюць столькі супольнага з асветай, што калісьці паканчалі школы: пачатковыя, сярэднія, а некаторыя можа нават вышэйшыя.

— Праца раднага не канчаецца на камісіі, — кажа Бажэна Гратовіч. — Найважнейшыя пасяджэнні рады, на якіх прымаюцца пастановы. Прыкра слухаць, што ёсць радныя, якія не знаходзяць месца ў радзе. Тут пахне палітыкай, а ў павеце няма на яе месца. Вялікая палітыка, то бліжэй вялікіх гарадоў, бліжэй Варшавы.

У Варшаву якраз, у сеймавую Камісію нацыянальных спраў паслала свой пратэст Бельская кааліцыя. Пані старшыня лічыць, што гэта злоўжыванне, што не было тут ніякага нацыянальнага падтэксту.

— Васіль Ляшчынскі ў Бельску адназначна асацыюецца з беларускім асяроддзем...

[працяг ☞ 3]



Калектыў „Арляне" заліхвацка адспяваў і адтанцаваў „Польку-заляцанку" (II месца).

## Фестываль у Беластоку

Ада Чачуга

Юбілейны, XXX цэнтральны агляд, які ад шасці гадоў завецца Агульнапольскім фестывалем беларускай песні, закончыўся.

**Валянціна Ласкевіч, сакратар ГП БГКТ:**

Першыя конкурсы праходзілі ў зале ГП БГКТ, дзе змяшчалася ледзь 150 асоб, у Філармоніі было ўжо 900 месц, а цяпер у „Влукняжы", дзе адбываюцца гала-канцэрты, бывае каля пару тысяч гледачоў. Ужо толькі гэта можа пераканаць любога скептыка, наколькі людзі цікавяцца Фестывалем і як мілая іх сэрцу беларуская песня. А доказам таго, што калектывы дзейсна працуюць, можа быць хаця б тое, што ніводная песня не паўтарылася ў сёлетнім конкурсе, усе яны былі своеасаблівыя, а жанчыны з фальклорных калектываў няспынна знаходзяць усё іншыя старадаўнія песні сваіх продкаў. Шкада, што некаторыя журналісты „Нівы" маюць прэтэнзіі да нас, быццам бы мы як арганізатары накідаем калектывам рэпертуар у стылі „таннай савечыны". Такія сцвярджэнні не маюць нічога супольнага з рэчаіснасцю. Мінулі ўжо тыя часы, калі калектывам трэба было дапамагаць у падборцы рэпертуару. Сёння большасць з іх мае сваіх музычных кіраўнікоў і дырыжораў, а фальклорныя калектывы даволі добра арыентуюцца ў тым, што з іхніх песень варта паказаць на сцэне або запісаць на касету.

У цэнтральным аглядзе Фестывалю, які адбыўся 7 лютага 1999 года ў гарнізонным клубе ў Беластоку, узяло ўдзел 59 выканаўчых адзінак. Побач з вядомымі калектывамі, якія дзейнічаюць ужо на працягу многіх гадоў (найстарэйшы, гарадоцкі, сёлета ўжо будзе святкаваць сваё 45-годдзе, але ж і бельскія „Васілёчкі", і беластоцкі хор, і гайнаўскі, і крыху маладзейшая за іх „Маланка"), як грыбы па дажджы вырастаюць новыя калектывы, а сярод іх — найбольш маладзёжных. Сёлета выступілі інструментальна-вакальныя калектывы: „Банан" (з Гайнаўскага ліцэя), „Прымакі", „Капры", „The Best", „Казанова", „Лідэр" і рэпертуар кожнага з іх быў сканструяваны на канве як найбольш народных, фальклорных песень.

Шанц існавання такіх калектываў тым большы, што іх выступленні не абмяжоўваюцца конкурсамі і канцэртамі. Людзі хочуць бавіцца сёння пад гукі роднай музыкі на забавах, вяселлях, на ёлцы ці на іншых урачыстасцях. Хто скажа, што беларусы перасталі любіць сваю песню — зманіць.

У ніякім конкурсе не бывае так, што ўсе выступленні аднолькава выдатныя. Здаецца, што задача фестывалю беларускай песні ў Беластоку — гэта не столькі класіфікацыя найлепшых, колькі прэзентацыя шырокага дыяпазону беларускай песні — ад аўтэнтычна фальклорнай, праз народную апрацаваную, да сучаснай з усімі інструментальна-вакальнымі эстраднымі калектывамі.

Мы ўсіх цэнім, гаворыць цёпла Валянціна Ласкевіч, мацнейшых і слабейшых. Шкада, што не ўсе могуць выступіць на гала-канцэрце, для выканаўцаў гэта вельмі важна. Усе вельмі стараюцца, хвалююцца за тое, каб выступіць як мага лепш.

А ўсё ж такі некаторыя вылучаліся выразна. Сярод інструментальна-вакальных калектываў — „Прымакі" (Юрка Астапчук і Марэк Зрайкоўскі), якія заспявалі народную песню „Ляціць воран". У катэгорыі фальклорнай песні — квартэт „Арэшкі" з Арэшкава, які заспяваў цудоўную, жаласлівую сірочую песню „Сівая зязюля", салістка Ніна Цыванюк, што ўспомніла бабуліну „Бяседную". У катэгорыі апрацаванага фальклору — калектыў „Ма-

[працяг ☞ 3]

## Венгры і беларусы

Ва ўсім свеце адзінай формай абароны з'яўляецца самаарганізацыя дыскрымінаванага асяроддзя і пратэсты пры выкарыстанні законаў, даступных сродкаў масавай інфармацыі, стваранне сваіх прадстаўніцтваў ва ўсіх органах улады. Рабіць гэта навучыліся нават цыганы ў Балгарыі ці Румыніі. У беларусаў нейк нішто не атрымоўваецца. Ствараюць яны нейкія выбарчыя дзівацтвы і пасля здзіўляюцца, што ніхто іх не шануе.

[з жыцця нацменаў ☞ 4]

## Публіцысты і публіцыстыка

Публіцыст, як самая назва падказвае, гэта журналіст, вучоны, палітык, селянін і г.д., які публічна выяўляе свае думкі, наогул крытычныя. І наогул прапануе штосьці ўзамен. Але як крытыкаваць, або інакш, як займацца справамі, напрыклад, Беларускага саюза, калі кіруюць ім нашы сябры? Як аднесціся да гмінных улад, калі гмінамі ў большасці кіруюць „нашы людзі"?

[меркаванне чытача ☞ 4]

## Ліцэйскі рэйтынг

На маю думку рэзультаты рэйтынгу непразрыстыя і цяжка на падставе іх ацэньваць нават і свой ліцэй, — кажа дырэктар Бельскага белліцэя Зінаіда Навіцкая. — Калі б ацэньваць паводле варшаўскіх, а не беластоцкіх крытэрыяў, тады найлепшы І Беластоцкі ліцэй быў бы горшы за наш.

[спаборніцтва ☞ 5]

## Ікона Уладзімірскай Божай Маці ў Кажанах

Сям'я Алексюкоў, якая ў 1915 г. падалася ў глыб Расіі, выратавала Кажанскую ікону БМ. Вялікіх памераў ікона замінала б у падарожжы, але яны так моцна жадалі выратаваць святыню, што вырашылі ўзяць яе з сабою. Дзеля гэтага зрабілі вялікую скрыню, у якой ікона даехала ў Екацерынбург і там была памешчана ў адной з цэркваў.

[нарыс ☞ 9]

## Акцыя

Адна статная і прыгожая пяцідзесяцігадовая жанчына працавала на чыгунцы ў прыпушчанскім горадзе. Мела буйную фантазію, а ў жылах бурлівую кроў. Любіла раманы накшталт „Дваранскага гнязда". Закахаўся ў яе малады прыгожы машыніст лакаматыва, які меў хваравітую жонку.

[скандал ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Фашызм ідзе з Усходу

5 лютага ў цэнтры Мінска членамі фашыстоўскай арганізацыі Русское национальное единство (РНЕ) былі жорстка збіты сябры аргкамітэта грамадзянскай ініцыятывы „Хартыя-97".

Каля дзевяці гадзін вечара ў раёне плошчы Перамогі група рускіх фашыстаў займалася распаўсюджваннем сваіх улётак сярод мінчукоў. Рабілі яны гэта адкрыта, не хаваючыся. Міліцыянтаў, якіх заўсёды поўна на вуліцах беларускай сталіцы, на гэты раз чамусьці паблізу не было.

Сябры „Хартыі-97" Андрэй Саннікаў і Зміцер Бандарэнка, якія ў гэты час вярталіся з працы, зрабілі фашыстам заўвагу. У адказ Андрэй Саннікаў атрымаў удар у твар. Пачалася бойка. Раптоўна аднекуль з'явіліся некалькі дзесяткаў маладых людзей з апаскамі і свастыкай на рукавах, якія пачалі збіваць спадароў Саннікава і Бандарэнку. Кіраваў усім мужчына сталага веку, апрануты ў фашыстоўкую форму. На дапамогу сваім сябрам кінуўся прэс-сакратар „Хартыі-97" Алег Бябенін. Але сілы былі няроўныя, і ён таксама быў збіты. Вырваўшыся ад фашыстаў, Зміцер Бандарэнка пабег па дапамогу ва Управу Беларускага народнага фронту, якая знаходзіцца недалёка ад месца здарэння. Малодчыкі, якія ў дваццаці збівалі трох чалавек, адразу ўцяклі ў невядомым накірунку. Калі на месца бойкі прыбеглі сябры БНФ і Маладога фронту, яны там засталі толькі Андрэя Саннікава, які ляжаў у лужыне крыві.

Тады ж з'явілася і міліцыя, якую нарэшце змог заклікаць Алег Бябенін. Але нейкіх рашучых дзеянняў супраць фашыстаў ахоўнікі правапарадку не прадпрынялі. Як паведаміў карэспандэнту „Нівы" Зміцер Бандарэнка, 9 лютага яго выклікалі на допыт у Партызанскі раённы аддзел міліцыі. Следчы капітан Васіль Налсановіч у першую чаргу запытаў яго, ці не з'яўляецца ён сябрам БНФ. Спадар Бандарэнка так і не зразумеў, у якасці каго яго выклікалі — пацярпелага ці злачынцы. Тым больш, што адначасова з ім у аддзеле міліцыі знаходзіліся прадстаўнікі РНЕ, якія паводзілі сябе нахабна і нават не знялі свастыку з адзення, калі знаходзіліся ў міліцыі. Яны адкрыта заяўлялі, што ім нічога не зробяць.

Рускія фашысты з'явіліся ў Беларусі каля чатырох гадоў таму. Тады, на жаль, на іх не звярнулі належнай увагі ні сябры БНФ, ні іншыя дэмакратычныя арганізацыі. Апошнім часам РНЕ актывізавала сваю дзейнасць, адчуваючы абсалютную абыякавасць да яе ўладных структур. Фашысты нават спрабавалі набыць сабе прыхільнікаў не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах Беларусі. Так, напрыканцы студзеня яны спрабавалі распаўсюджваць сваю літаратуру на вуліцах Гродна, але былі спынены сябрамі Маладога фронту і пацярпелі фізічна (*чытайце ніжэй*).

Зараз на барацьбу з рускім фашызмам падымаецца ўся дэмакратычная грамадскасць Беларусі. Сябры праваабарончых арганізацый падалі заяўку ў Мінскі гарвыканкам на правядзенне 27 лютага мітынгу, галоўным лозунгам якога будзе „Не — фашызму на Беларусі!". А тым часам сябры Маладога фронту затрымліваюць на вуліцах Мінска фашыстаў і перадаюць у міліцыю, як гэта было 8 лютага каля будынка філармоніі, дзе звычайна члены РНЕ робяць свае сходкі. Але склаўшы пратаколы, міліцыянты адразу адпусцілі фашыстаў.

**Зміцер Кісель**

## Фашысты ў Гродне атрымалі ў морду

20 студзеня ў цэнтры Гродна два маладых хлопцы сярод белага дня раздавалі прахожым газету расійскіх фашыстаў „Русское национальное единство". Гэта была першая спроба арганізацыі, якая пусціла моцныя карані ў Расіі і апошнім часам пачала пранікаць на Беларусь, адкрыта з'явіцца на вуліцах старажытнага беларускага горада.

Некалькі чалавек, якія былі сведкамі фашыстоўскай акцыі, адразу паведамілі пра яе ў штаб-кватэру гродзенскай арганізацыі БНФ (паказальна, што не ў міліцыю — аўт.). На той час ў памяшканні дзяжурыў адзін актывіст Маладога фронту. Ён адразу пайшоў даведацца, што на самай справе адбываецца. Убачыўшы двух паслядоўнікаў расійскага імперыялізму, маладафронтавец узяў іх за каўняры, адвёў у бок, забраў фашыстоўскія газеты і правёў з хлопцамі тлумачальную размову. Пасля даў, дзеля прафілактыкі, кожнаму па ілбе і адпусціў.

Зараз Малады фронт высвятляе, хто спрабуе распаўсюджваць у Гродне расійска-фашыстоўскую заразу. **(зк)**

## Адзначым год Манюшкі

Сёлета спаўняецца 180 гадоў з дня нараджэння нашага славутага земляка Станіслава Манюшкі. Імя гэтага кампазітара, якое традыцыйна звязваецца з польскай музыкай, мае глыбінную, крэўную сувязь з беларускай культурай і з нагоды юбілею мае быць ушанавана адмыслова. Таму Беларускі фонд культуры абвясціў сёлетні год годам Манюшкі. Створаны арганізацыйны камітэт па святкаванні, які ўзначаліў вядомы музычны дзеяч краіны, народны артыст, лаўрэат дзяржаўных прэмій, прафесар Міхал Казінец. У планах — шэраг канцэртаў, правядзенне дзіцячага фестывалю-конкурсу імя С. Манюшкі (Чэрвеньскі раён, месца знаходжання Убеля — радзіннай сядзібы кампазітара), адкрыццё мемарыяльнага знака на доме ў гістарычным цэнтры Мінска, дзе жыла сям'я Манюшкаў. Кульмінацыя ўрачыстасцяў прыпадае на май — час яшчэ ёсць, каб распрацаваць грунтоўны план імпрэзы і надаць святу шырокі розгалас. **С. Б.**

*ЛіМ, н-р 4(3984), 22 студзеня 1999 г.*

## Дзе абяцаная расійская нафта?

Гарадзенскія аўтамабілісты ўжо некалькі месяцаў пакутуюць ад недахопу паліва.

Калі раней у вольным продажы не было бензіну, то з пачатку лютага знікла і дызельнае паліва. Штодня на запраўках станцыі Гродна завозіцца толькі па тоне бензіну марак АІ-76 і АІ-92 і столькі ж саляркі. Гэта паліва прадаюць у абмежаванай колькасці — 20 літраў на машыну. Бензіну АІ-95 няма наогул. **(зк)**

## Над берагам Нёмана

Шкада, што на польска-беларускай мяжы з году ў год вырастае штораз вышэйшы мур. Урадавыя колы з аднаго і другога боку пастаянна ўскладняюць рух людзей і тавараў з Беларусі ў Польшчу і з Польшчы ў Беларусь. Усё гэта робіцца дзеля нейкіх палітычных мэтаў, а пакутуюць перш за ўсё нармальныя людзі. Нішто не паказвае на тое, што гэты працэс будзе стрыманы.

Можна сябе памарыць і ўявіць, напрыклад, такую сітуацыю, што жыхар Беластока пасля нядзельнага абеду сядае ў аўтамабіль і едзе ў Гародню ў тэатр, а пасля спектакля праз гадзіну знаходзіцца ўжо ў сваім доме. Гэта зусім не фантазія. У нармальных палітычных умовах праезд 80 кіламетраў з адначасным перасячэннем дзяржаўнай мяжы павінен менавіта і займаць адну гадзіну часу. Кожны, аднак, хто ведае практыку перасякання польска-беларускай мяжы і адчуў асабіста асаблівую ветлівасць мытных і пагранічных службаў, не паверыць, што калінебудзь такое стане магчымым. Сёння з Гародні ў Беласток на аўтобусе можна ехаць ад 4 да 8 гадзін. Усё залежыць ад гумару працуючых на мяжы лейтэнантаў. Хутчэй можна пераехаць цягнікам, але тады пасажыраў чакае прыніжаючая чалавечую годнасць таможня на чыгуначным вакзале ў Гародні.

Тым часам у Гародню варта паехаць па некалькіх прычынах. Атмасфера, якую ставарае архітэктура, не дае жыхару Беластока ўражання такой адчужанасці, якую адчуваецца, напрыклад, у Менску ці нават у Бярэсці. Гэты горад як бы больш нам лагічны і зразумелы. Не выклікае там таксама здзіўлення беларуская мова. Хаця людзі гавораць у асноўным па-руску, але неяк натуральна ўспрымаюць і беларускую. У Гародні таксама поўна помнікаў, мемарыяльных дошак у гонар усяляхіх Чапаевых, Дзяржынскіх, Леніных ды іншых савецкіх жулікаў, але яны неяк штучна ўпісваюцца ў краявід горада. У Менску каменныя ці бронзавыя вывы гэтых асобеняў выглядаюць больш натуральна.

Сваю атмасферу захоўвае ўсё яшчэ гарадзенскі стары горад. Саветы не ўсё тут паспелі зруйнаваць. На беразе Нёмана, на месцы званым Старым замкам, можна дакрануцца да гісторыі XII стагоддзя. На цэнтральнай вуліцы — Савецкай — сляды шматвяковай гісторыі горада. Больш ведаў пра мінулае, — кажа археолаг Алесь Краўцэвіч, — скрывае зямля вакол гэтай вуліцы. Бальшавікі ўсё тое, што не падыходзіла да іхняй ідэалогіі, здымалі да ўзроўню зямлі. Пад плошчамі і архітэктурнымі дзівацтвамі скрываюцца каменныя і цагляныя сляды чатырнаццатага ці пятнаццатага стагоддзя.

Асаблівым музеем з'яўляецца гарадзенскі стары могільнік. Ляжаць на ім праваслаўныя і каталікі. Можам там таксама сустрэць і такія асаблівасці як сямейныя надмагільныя помнікі, завершаныя крыжамі і савецкімі пяцікутнымі зоркамі. Шмат каменных надмагільных фігур, асабліва з XIX стагоддзя, маюць такія ж кшталты, якія сустракаецца на старых вясковых могільніках Беласточчыны. Гарадзенскія могілкі гэта, здаецца, адзін з нешматлікіх куткоў Беларусі, дзе камуністы не навялі парадкаў паводле сваіх эстэтычных патрабаванняў. Савецкую эстэтыку адлюстроўваюць затое сучасныя беластоцкія месцы вечнага спачынку, дзе кожнаму нябожчыку сям'я ўзвальвае на магілу пару тон бетону, упрыгожанага надпісамі з залатых лацінскіх літар.

Гародня — горад несумненна бяднейшы за Менск. Гэта відаць па аўтамабілях і аўтобусах на вуліцах, па нерамантаваных старых камяніцах у цэнтры, па вопратцы жыхароў. У цэнтралізаваных дзяржавах, дарэчы, прынцыпова большасць грошай краіны высмоктае сталіца.

Гародня, як і ўся Беларусь, гэта рай для аматараў піва. Лідскае піва магло б, праўдападобна, паспяхова спаборнічаць з найлепшымі з півавар няў Еўропы. Яго якасць і смак маглі б садзейнічаць добраму настрою не толькі грамадзян Беларусі, але даваць гэтай краіне немалы прыбытак. Цана ўсіх алкагольных напояў, у тым ліку і піва, на Беларусі проста сімвалічная. За адзін долар можна ў краме купіць 8 пляшак піва. У Польшчы, пасля таго як вялікія піваварныя заводы перанялі немцы, галандцы і французы, піва змяніла не толькі смак (на горшы) і ўпакоўку, але і спажыўцоў. Раней было яно народным напоем, даступным для рабочых і сялян, цяпер стала элітарным. Польскі пралетарыят для падтрымкі настрою вымушаны купляць танную атруту айчыннай вытворчасці, якую, па невядомых прычынах, завуць віном.

У Беларусі таксама вялікі выбар спіртных напояў. Гарэлка, якую гандляры на беластоцкіх базарах прадаюць па 10 злотых, у гарадзенскіх крамах агульнадаступная ў цане ад 2,5 да 2,7 злотага (180-210 тысяч беларускіх рублёў). Праўдападобна нізкія цэны гэтых вырабаў з'яўляюцца адной з прычын пашаны для прэзідэнта з боку вялікай часткі грамадства. Лукашэнка разумее свой люд, а люд разумее свайго прэзідэнта.

Гародня — горад шматнацыянальны і шматканфесійны. Але пра шматкультурнасць сведчаць толькі, як і ў Беластоку, каталіцкія касцёлы і праваслаўныя цэрквы ў краявідзе горада. Шанц пачуць польскую мову на вуліцах Гародні прыблізна такі як у Беластоку беларускую. У газетных кіёсках ляжыць „Głos znad Niemna", тыднёвік гарадзенскіх палякаў. „Прадаю 1-2 экземпляры, — кажа жанчына за прылаўкам. — Сама я полька, але цяжка чытаць газету надрукаваную лацінскімі буквамі".

**Яўген Мірановіч**

## „Маладыя — перадавы край змагання за незалежнасць"

Так сцвярджаюць аўтары „Маніфеста Маладых", які быў прыняты на другім з'ездзе Маладога фронту 7-га лютага.

У гэты дзень у Мінскім палацы культуры прадпрыемства „Сукно" сабралася 375 дэлегатаў ад усіх маладафронтаўскіх суполак з розных рэгіёнаў Беларусі. Яны абмяркоўвалі дзейнасць сваёй арганізацыі і вырашалі, што рабіць у бліжэйшай будучыні. Як адзначыў старшыня Маладога фронту Павел Севярынец, неабходна скіраваць дзейнасць у напрамак культуры і агітацыі.

Кульмінацыяй з'езда стала прыняццё „Маніфеста Маладых", у якім адзначаецца: „Сёння студэнты, школьнікі, працоўныя і нефармальная моладзь — гэта найбуйнейшая сацыяльная база нацыянальнавызвольнага і дэмакратычнага руху".

Далей у дакуменце гаворыцца, што „моладзь самой ходаю падзеяў заклікана згуртавацца вакол беларускай ідэі і патрабавання рэформаў, не зважаючы на разброд у стане палітыкаў старэйшага пакалення".

З'езд таксама абраў кіраўніцтва Маладога фронту. Старшынёю зноў стаў Павел Севярынец. Яму будуць дапамагаць аж дзесяць намеснікаў.

**(зк)**

# Фестываль у Беластоку




*Хаця „Чыжавяне" прыехалі з грыпам, то выйшлі на першае месца.*

[1 ☞ праця*г*]
ланка" з Бельска пад упраўленнем Сяргея Лукашука, „Чыжавяне" з Чыжоў, узровень якіх расце, хаця на фестываль яны прыехалі з грыпам, беластоцкі хор „Крыніца" пад упраўленнем Віктара Маланчыка. У сучаснай песні — дзявочы калектыў „Каласкі" пад упраўленнем Алы Дубец, а таксама калектыў „Арляне" з Орлі, які заліхвацка адспяваў і адтанцаваў „Польку-заляцанку". Рух на сцэне ўсё ж робіць сваё!

Ва ўсіх іх поспехах відаць фахова рука кіраўнікоў, дырыжораў і харэографаў. Але перш за ўсё гэта праца саміх членаў калектываў — людзей, якія без роднай песні жыць не могуць.

На цудоўнай беларускай мове вялі агляд Галіна Іванюк і Альжбета Рудчук.

Журы: старшыня Міхась Дрынеўскі, кіраўнік хору імя Цітовіча, Ежы Завіша з Міністэрства культуры РП, Тадэуш Стружэцкі з Міністэрства культуры РБ, Анджэй Данільчук з Польскага радыё ў Беластоку, Ежы Сырудкоўскі з Беластоцкай музычнай школы і Станіслаў Альханоўскі з Беластоцкай філармоніі, — класіфікавала ўдзельнікаў на наступныя месцы:

**У катэгорыі фальклорнай песні**

**салісты:**

I — Ніна Цыванюк з Гарадка,
II — Вольга Ахрымюк з Чыжоў і Вера Нічыпарук з Маліннікаў,



*Марыя Врублеўская з Гарадка выступіла ўпершыню (III месца).*

III — Антаніна Сідарук з Дабрывады і Анна Якімюк са Збуча;

**дуэты, трыо, квартэты:**

I — квартэт „Арэшкі" з Арэшкава,
II — квартэт „Каліна" з Дашоў і „Згодныя макі" з Райска,
III — дуэт Кацярына Ціханюк і Ніна Хворась са Збуча і квартэт з Дабрывады;

**калектывы**

I — не прызнана,
II — калектывы з Маліннікаў і Дубяжына,
III — „Красуні" з Краснага Сяла і „Жуpaвінкі" з Агароднічак.

**У катэгорыі апрацаванай фальклорнай песні**

**салісты:**

I — Уладзімір Іванюк з Беластока,
II — Аляксандр Раманюк з Дубяжына,
III — Анна Карэтка з Нараўкі;

**дуэты, трыо, квартэты:**

I — не прызнана,
II — Ніна Грыгарук і Надзея Гаўрылюк з Курашава,
III — квартэт „Незабудкі" з Курашава;

**калектывы:**

I — мужчынская група ГДК і „Чыжавяне" з Чыжоў,
II — „Цаглінкі" з Ляўкова, мужчынская група „Крыніцы" і „Расспяваны Гарадок",
III — жаночая група „Крыніцы" і жаночая група ГДК,
вылучэнне — „Хлопцы-рыбалоўцы";

**інструментальна-вакальныя калектывы:**

I — „Маланка" з Бельска;

**хоры:**

I — „Крыніца" з Беластока і хор ГДК з Гайнаўкі,
II — не прызнана,
III — „Васілёчкі" з Бельска.

**Сучасная беларуская песня**

**салісты:**



*Ужо другі раз спявае на фестывалі Вера Нічыпарук з Маліннік (II месца).*

I — Святлана Кобус з бельскай „Маланкі",
II — Дамініка Цімашук з нараўскага „Пронара" і Анна Хадакоўская з Бельскага беларускага ліцэя,
III — Марыя Врублеўская з Гарадка,
вылучэнне — Юліта Такарэўская з Бельскага беларускага ліцэя;

**калектывы:**

I — „Каласкі" з Беластока,
II — „Знічка" з Гайнаўскага беларускага ліцэя і „Арляне" з Орлі,
III — „Дзявочыя ноткі" з Бельскага беларускага ліцэя.

**Эстрадныя калектывы:**

I — „Прымакі",
II — „Лідэр", „The Best",
III — „Казанова", „Капры".

Усіх лаўрэатаў віншуем!

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# У Бельску падчысцілі камісіі

[1 ☞ праця*г*]
дзем, — лічыць бурмістр і намеснік старшыні Бельскай кааліцыі Андрэй Сцепанюк. — Мы самі рашаем, каму слаць пратэсты.

— Каб я быў такім музейным беларусам, хадзіў у лапцях і рубашцы-вышыванцы, спяваў і танцаваў з прыдуркаватым выглядам перад дабрадзеямі, бы Хрушчоў перад Сталіным, усё было б у парадку, — маркуе Васіль Ляшчынскі. — Я не мяшаў бы нікому.

Больш-менш у той жа час падалі ў адстаўку дырэктары службы аховы здароўя ў Бельску, якія трапілі пад павятовую адміністрацыю. Пайшлі чуткі, што будуць чысціць пасады.

— Гэта ўсяго плёткі, — смяецца стараста Марк Лукашэвіч. — Нічога такога не мае месца. Доктар Ян Гушч адмовіўся ад пасады, бо хацеў вярнуцца да практыкі лекара-хірурга. А ягонае асяроддзе выкарыстоўвае гэты факт у сваіх палітычных мэтах.

— За прыкладамі такога чышчэння не трэба аглядацца далёка ў мінулае, — кажа старшыня Гарадской рады Бельска і Бельскай кааліцыі Януш Панасюк. — Калі гэты сам правы палітычны лагер, толькі пад іншай шыльдай, перамог на выбарах у 1990 годзе, дакладна вычысціў Гарадскую управу ў Бельску з праваслаўных.

— Кіруючая горадам Бельская кааліцыя не можа прымірыцца з тым, што прайграла выбары ў павеце, — лічыць Бажэна Гратовіч, — але час залечыць паслявыбарчыя раны, усё супакоіцца. Мы тут жывем адзін з адным здаўна і не мае значэння, хто паляк, хто беларус, а хто ўкраінец. Каларыт рэгіёна можна выкарыстаць дзеля яго прамоцыі ў краіне і свеце.

Пра ліст правых радных Гарадской рады Бельска ў пачатку дзевяностых, у якім аспрэчвалася само існаванне беларусаў у горадзе, пані Гратовіч не чула.

**Мікола Ваўранюк**

# Хітруны-шафёры

Ніжэй апісанае здарэнне з'яўляецца аўтэнтычным фактам і сведчыць пра недасканаласць чыгуначнага аўтобуснага транспарту.

— Ехала я службова аўтобусам з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі, — гаворыць Крыстына С. з Чаромхі. — Было гэта ў аўторак 9 лютага. Ужо на месцы, у 6.36 на гайнаўскай станцыі амаль усе месцы былі заняты. У Старым Беразове шафёр меў камплект пасажыраў. У Моры аўтобус не затрымоўваўся. Далей маршрут наш вёў праз Орлю, Арлянку, у Бельск-Падляшскі. Двое пасажыраў ехала на пахаванне ў Шчыты. Білет мелі куплены з Гайнаўкі ў Арлянку. Ведаючы звычку шафёраў, я параіла жанчыне, якая падарожнічала ў Шчыты, запытаць шафёра, ці ў Бельск ён паедзе з Орлі праз Арлянку (па маршруце), ці каротшай дарогай праз Парцава. Яна так і зрабіла. Шафёр заявіў, што паедзе праз Парцава. Не памаглі тлумачэнні кандуктаршы, што ў Арлянку трэба заехаць, бо там выходзіць двое пасажыраў з купленымі ў Гайнаўцы білетамі. Ён паставіў на сваім. Жанчыны вымушаны былі сысці ў Орлі, хоць там няма чыгуначнага прыпынку.

Такім чынам, дзяржаўная чыгунка абдурыла сваіх кліентаў. Заставіла іх пратаптаць лішнія кіламетры пехатою, хоць яны за гэты адрэзак дарогі заплацілі.

Як мне сказала сяброўка Крыстына С., шафёр, з якім яна падарожнічала, ужо не першы раз так паступае. Не заязджаючы на прыпынак у Арлянку, эканоміць шмат кіламетраў (а гэтым самым і бензіну), бо ў дарожнай карце піша курс згодны з маршрутам (праз Арлянку).

Дзіўным мне здаецца факт, што на скаргі кандуктараў у вышэйзгаданай справе ніхто з чыгуначных начальнікаў не рэагуе. Відаць, лепш ім дуць у адну дудку з шафёрамі, чымсьці дбаць пра кліента і сваю рэпутацыю.

**Уладзімір Сідарук**

# Ячшэ можна прыдбаць ніўскі каляндар

Хаця ўжо канчаецца другі месяц гэтага года, у нашу рэдакцыю прыходзяць лісты і заходзяць наведвальнікі ў справе першага нумара „Нівы", у якім друкаваўся каляндар на 1999 год. Відаць, не ўсе жадаючыя змаглі яго купіць, хаця ў кіёсках „Руху" гэты нумар нашага штотыднёвіка прадаваўся ўвесь студзень. У сувязі з тым, што маем яшчэ невялікую колькасць навагодніх паасобнікаў, тыя, што не паспелі яшчэ купіць „Ніву" з календаром могуць гэта зрабіць у нашай рэдакцыі асабіста (экземпляр каштуе 1,20 зл.) або заказаць па пошце (тады яна будзе даражэйшая на 1,10 зл., бо трэба каштуе перасылка).

**Рэдакцыя**

# Чарговая павятовая сесія

Чацвёртая сесія Рады Бельска-Падляшскага павета, якая праходзіла 30 студзеня г.г., цягнулася доўга — бо аж адзінаццаць гадзін. У яе ходзе радныя заслухалі справаздачу старасты Марка Лукашэвіча і ўхвалілі арганізацыйны рэгламент старства. Вырашылі яны таксама аб стварэнні Павятовага цэнтра дапамогі сям'і, якога старшынёю была назначана Гражына Базюта. Пасля радныя стварылі рэвізійную камісію з пяці чалавек, якую ўзначаліў Анджэй Харытон, і пяць мерытарычных камісій рады.

Чарговай справай, якой заняліся радныя, былі зарплаты павятовым чыноўнікам і ганарары радным. Бельскі стараста атрымае 5 323 зл. у месяц, а ягоны намеснік — 4 435 зл. Радны — член управы зарабіць 60% мінімальнай зарплаты, якая зараз складае 528 зл., старшыня камісіі — 50%, а звычайны радны — 30%. Радныя за сваю працу грошай яшчэ не дасталі.

Радная Галена Бушко сабрала дзесяць подпісаў з патрабаваннем склікаць нечарговую сесію, прысвечаную ахове здароўя. Як паведаміў стараста, пад канец студзеня з займаемай пасады зменшчаны быў Ян Гучш — дырэктар шпіталя ў Бельску-Падляшскім.

**Міхал Мінцэвіч**

# Венгры і беларусы

У днях 4-7 лютага гэтага года ў сталіцы Славакіі праходзіла чацвёртая ўжо канферэнцыя, прысвечаная сітуацыі нацыянальных меншасцей у краінах сярэдняй Еўропы. Гэту, як і ўсе папярэднія канферэнцыі, арганізавала Міжнародная асамблея па справах нацыянальных меншасцей, якая падрыхтоўвае матэрыялы для Савета Еўропы. Змест канферэнцыі, выказванні ўдзельнікаў, што адлюстроўвалі юрыдычны і фактычны стан у паасобных краінах, з'яўляецца падставай для аналізаў і распрацоўкі агульных стандартаў палітыкі ў адносінах да меншасцей, якія пасля будуць прапанавацца для рэалізацыі дзяржавам-членам еўрапейскіх структур.

Апрача прадстаўнікоў ад меншасцей удзельнікамі канферэнцыі з'яўляюцца заўсёды дзяржаўныя чыноўнікі краіны, на тэрыторыі якой адбываецца сустрэча і, зразумела, супрацоўнікі міжнародных устаноў. Агульная тэндэнцыя ўсіх выступленняў чыноўнікаў, якіх прыйшлося мне слухаць падчас падобных сустрэч у Румыніі, Балгарыі, Польшчы і цяпер у Славакіі, мае наступны характар: у нас ёсць добрая воля станоўча вырашаць праблемы нацыянальных меншасцей, у нас добрае заканадаўства, і мы ўсё яшчэ безупынна працуем над тым, каб яго ўдасканаліць. Нацыянальныя меншасці, аднак, гавораць пра зусім адваротную сітуацыю, паказваюць праявы дыскрымінацыі так з боку дамінуючай большасці, як і дзяржаўных улад. Вельмі выразна відаць, што бачанне тае самае рэчаіснасці ў краіне меншасцямі і большасцю значна разыходзіцца.

Сітуацыя паасобных нацыянальных груп у адной і той жа краіне не заўсёды аднолькавая. Напрыклад, славацкія венгры, якія складаюць каля 10 працэнтаў насельніцтва краіны (450 тыс.) маюць свайго віцэ-прэм'ера, двух міністраў і двух віцэ-міністраў. Венгры дамагаюцца ад славацкага ўрада стварыць венгерскі універсітэт аргументуючы гэта тым, што іх моладзь не ведае славацкай мовы. У большасці пачатковых і сярэдніх школ, у якіх вучацца венгерскія дзеці і моладзь, дзяржаўная мова вывучаецца толькі ў якасці дадатковага і зусім не найважнейшага прадмета. У сталіцы Славакіі Братыславе можна глядзець чатыры каналы венгерскага тэлебачання і два славацкага, а прытым у гэтым жа славацкім тэлебачанні транслююцца праграмы для мадзьяраў, на іх мове і падрыхтаваныя іхнімі журналістамі. У той жа час статысячная група цыганоў знаходзіцца ў становішчы грамадзян, якія перш за ўсё патрабуюць, каб ніхто не біў іх па прычыне іншага колеру скуры, каб не выкідаў з працы толькі таму, што яны — цыганы. Шмат венгерскамоўных ромаў проста заяўляе пра сваю венгерскую нацыянальнасць, атрымліваючы дзякуючы гэтаму апеку суседняй дзяржавы і магутнага мясцовага мадзьярскага лобі.

Венгерскія міністры ў славацкім урадзе і выразная прысутнасць гэтай меншасці ў палітычным жыцці краіны з аднаго боку дае шанц на паспяховасць інтэграцыі ў еўрапейскіх структурах, з другога, аднак, выклікае адмоўныя рэакцыі славакаў. У прыватных размовах нават найбольшыя інтэрнацыяналісты заяўлялі, што такая выразная прысутнасць непрыхільнай ім меншасці ў структурах улады — гэта палітычны скандал. З сентыментам большасць гаворыць пра былога прэм'ер-міністра Меч'яра, які ва ўяўленні славакаў бараніў гонар і незалежнасць народа.

З увагі на тое, што дыскусія засярodзілася на доступе меншасцей да сродкаў масавай інфармацыі, можна было параўнаць сітуацыю ў Польшчы на фоне іншых краін сярэдняй Еўропы. Безумоўна, немагчыма параўноўваць тое, што мае беларуская меншасць у Польшчы і венгерская ў Славакіі. Асноўная розніца, аднак, не выплывае з дзяржаўнай палітыкі ці варожасці з боку большасці. Венгры ў Славакіі хочуць быць венграмі і маюць маральную падтрымку дзесяцімільённай масы суайчыннікаў, калі беларусы ў Польшчы робяць усё, каб ніхто звонку не бачыў іх як беларусаў, а пра падтрымку з боку мінскіх саветаў можна гаварыць выключна ў форме чорнага гумару.

Прадстаўнік нейкага канадска-вялікабрытанскага фонду падтрымкі дэмакратыі ў Еўропе Тобі Мендэль сказаў, што еўрапейскія стандарты патрабуюць, каб дзяржава і яе ўлады не толькі не дыскрымінавалі меншасцей, але не дапускалі, каб хто-небудзь на яе тэрыторыі гэта рабіў. Дзяржава мае таксама абавязак даць меншасцям магчымасць выказацца непасрэдна перад большасцю пра свае праблемы. Такія сучасныя нормы цывілізаванага свету.

У Польшчы цалкам добрае заканадаўства, але нічога з гэтага не вынікае. Напрыклад, радныя павятовай рады ў Бельску цалкам законна і дэмакратычна вырашылі паздзекавацца з беларускіх калег, праваслаўныя лекары маюць цяжкасці з падпісаннем дамоваў з Падляшскай касай хворых. Пры дапамозе цывілізаваных законаў і дэмакратычнымі метадамі лакальныя царыкі могуць дыскрымінаваць і прыніжаць каго толькі захочуць. Ва ўсім свеце адзінай формай абароны з'яўляецца самаарганізацыя дыскрымінаванага асяроддзя і пратэсты пры выкарыстанні законаў, даступных сродкаў масавай інфармацыі, стварэнне сваіх прадстаўніцтваў ва ўсіх органах улады. Рабіць гэта навучыліся нават цыганы ў Балгарыі ці Румыніі. У беларусаў неяк нішто не атрымоўваецца. Ствараюць яны нейкія выбарчыя дзівацтвы — „коаліцые левіцовэ”, „незалежні разэм” і пасля здзіўляюцца, што ніхто іх не шануе. Калі хочам, каб нас нехта шанаваў, перш за ўсё самі сябе мусім шанаваць. Але гэта толькі старая банальнасць, якая тут так зразумелая, як і кітайская філасофія.

Яўген Міранові́ч

# Твар і рыла

З увагаю прачытаў я артыкул Яўгена Міранові́ча п.з. „Пры камуне жылося...” („Ніва” н-р 5) і магу сказаць канкрэтна і смела: напісана праўдзіва, згодна з фактамі і аўтар адлюстроўвае нашы характар, душу і натуру. На жаль, такія мы ёсць, і толькі языком мы „героі”, бо калі прыходзіць час пробы, тады хаваем галаву ў пясок і толькі азадак тырчыць. Мы пастаянна наракаем, але, ці пасля вайны, калі правіла камуна „з людскім рылам”, добра нам жылося? Бо калі „кулак” — дык хаця не жыві: так налогамі абкладалі, быццам найгоршага злачынцу. А абавязковыя пастаўкі? Гамулка даў нейкую аддышку і разваліў нерэнтабельныя калгасы. Да поўнай палітычнай свабоды было далёка, бо Масква ўсім правіла, аднак польскага народа не ўдалося закабаліць дзякуючы яго любові да роднай мовы, рэлігіі, абычаяў. Камуну пры Герку можна ахрысціць „з людскім тварам”, хаця „рылы” нідзе не падзеліся і правілі Польшчай як хацелі і сёння атрымоўваюць вялікія пенсіі, або паўлазілі на высокія столкі нават у „Салідарнасць” і правяць далей.

Калісьці адна жанчына цешылася, што пры камуне добра жывецца ў Польшчы. Для яе сям'і напэўна было добра, бо бацька яе — камуніст „з людскім рылам” — за крыўды, што ўчыняў людзям пасля вайны і пазней, атрымоўваў вялікую партыйную спецыяльную пенсію; і муж яе не іншы быў. Такім добра жылося і сёння чорт іх не бярэ, бо сваіх дзяцей уладкавалі па знаёмстве куды хацелі. А вось нядаўна тая самая жанчына вельмі шкадавала колішнюю камуну. Яны могуць шкадаваць, бо калісь яны правілі вёскай, а сёння — на шчасце людзям, а ім на гора — тую ўладу ім забралі з-пад самага носа. І такія заўсёды будуць праклінаць „Салідарнасць”. Нават сярод карэспандэнтаў „Нівы” трапляюцца такія, што з нянавісцю глядзяць на салідарнікаў і на мяне таксама, — бо я паклоннік гэтага прафсаюза, — і то з простай прычыны: ім таксама забралі ўладу з-пад носа. І гэта ўсё!

А з палякамі няма жартаў і калі бяда, дык яны ўмеюць агрызнуцца. Так было пры камуне, якую ў нас найперш развалілі, а таксама і сёння, калі ўрад не ў сілах правіць дзяржавай, усюды зладзейства і мафія, а селяніна не лічаць чалавекам. І вось салідарнікі Анджэя Лепера застрайкавалі, абставілі і заблакіравалі дарогі і, веру, іхнія пастулаты будуць прыняты найвышэйшымі чыноўнікамі польскага ўрада. І мы, беларусы, што не любім „Салідарнасці” і сядзім як мыш пад мятлою за іхнімі плячыма, атрымаем падарак, які яны адваявалі. Мы толькі многа гаворым і шкадуем камуну „з людскім рылам”. Але і ў нас было выключэнне, калі летам 1981 года ў Дубічах-Царкоўных была арганізавана першая „Салідарнасць”, якая слушна ўзялася за аднаго царыка і выкінула яго. І таму нічога дзіўнага, што некаторыя карэспандэнты „Нівы” — камуністы „з людскім рылам” — не цярпяць мяне і атакуюць з усіх бакоў. Але я іх не баюся, бо мінула іхняе царства; хай ведаюць! І думаю, што подзвіг, які тады зрабілі Дубічы-Царкоўныя, быў выключэннем, і то глабальным, у цэлай Польшчы. І таму героі не звяліся ў нас! Хвала ім і тым, што слушна бароняць правы чалавека і селяніна; гэта тыя, якіх нікому не ўдасца падкупіць ні маннай нябеснай, ні абяцанкамі-цацанкамі.

Мікалай Панфілюк

# Публіцысты і публіцыстыка

Ці можа быць у „Ніве” публіцыстыка? Па-мойму не можа, хаця паявіліся ў ёй публіцысты — глядзі выхадныя даныя „Нівы” на 11 старонцы. Дзесь так да снежня 1998 года, „Ніву” стваралі калектыў журналістаў, а ад снежня — публіцысты. Пачакаем, можа паявіцца і публіцыстыка. Пакуль што, калі-некалі публікуе свае погляды на розныя справы Яўген Міранові́ч, а ў кожнай „Ніве” — публіцыст з Дубіч-Царкоўных на ўсялякія справы. Вельмі крытычна можна пісаць пра немцаў або амерыканцаў, горш калі трэба пісаць, што думаем пра сваіх, якія знаходзяцца не так далёка як амерыканцы.

Публіцыст, як самая назва падказвае, гэта журналіст, вучоны, палітык, селянін і г.д., які публічна выяўляе (у рознай форме — газетны артыкул, фельетон па радыё, рэпартаж у тэлебачанні) свае думкі, наогул крытычныя. І наогул прапануе штосьці ўзамен. Але як крытыкаваць, або інакш, як займацца справамі, напрыклад, Беларускага саюза, калі кіруюць ім нашы сябры? Як аднесціся да гмінных улад, калі гмінамі ў большасці кіруюць „нашы людзі”? Нічога, што дзеці беларусаў у беларускіх вёсках, у пераважнай большасці, гавораць на дзяржаўнай мове. Але як тут пісаць пра настаўнікаў і то яшчэ крытычна, калі добра, што яны яшчэ вучаць, за марныя грошы, хаця нічога не ўспамінаюць пра нацыянальную свядомасць?.. Што ж зробіш. Некаторыя карэспандэнты „Нівы” пішуць, што паскудзіць сваё гняздо нельга і не трэба, бо што іншыя скажуць.

Ад студзеня гэтага года, можа мы яшчэ гэтага не ўсведамляем, беларусы ўсходняй Беласточчыны апынуліся ў зусім іншай адміністрацыйнай сітуацыі. У адным павеце і некалькіх гмінах адміністрацыяй кіруюць беларусы. Няпраўда, што гэтыя ўлады нічога не могуць зрабіць для сваіх выбаршчыкаў. Могуць. Роля публіцыстаў — паказаць чаго ўлада не робіць, а што робіць не так, як людзі бачаць, каб было зроблена. Трэба, каб улада падказала настаўнікам, у большасці беларусам, што ў беларускіх вёсках жывуць беларусы. Не хто іншы, а толькі гмінная і павятовая ўжо ўлады павінны памагаць сялянам прадаваць іх прадукты. Цяпер улады, выбраныя дэмакратычна на сваёй тэрыторыі, могуць усё. А калі не ведаюць, што могуць усё зрабіць, то ад гэтага ёсць публіцысты ў „Ніве”. Не толькі з прызначэння.

Міхась Куптэль

# Беларусы не з'яўляюцца рэвалюцыянерамі

У польскім асяроддзі пакутуе міф, што беларусы — людзі выключна левай арыентацыі. У васьмідзесятых гадах, у адрозненні ад усяе краіны, на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны не адбылася салідарніцкая рэвалюцыя. Узніклі, праўда, структуры „Салідарнасці”, але хутка абмежаваліся яны да польскага асяроддзя. Беларусы захавалі сваю прыхільнасць для посткамуністычных партый і палітыкаў, што сведчыць можа толькі аб кансерватызме нашага асяроддзя, а не нейкім левым радыкалізме.

Пры канцы студзеня і на пачатку лютага польскія сяляне збунтаваліся супраць палітыкі салідарніцкага ўрада. Дарогі на тэрыторыі Польшчы, у тым і на заходняй Беласточчыне, пакрыліся сеткай сялянскіх блакад. На тэрыторыі населенай беларусамі і гэтым разам было спакойна, хаця бунт быў накіраваны супраць сілы, якая нікалі не карысталася падтрымкай беларускага сялянскага асяроддзя. Зразумела, не абазначае гэта, што беларускім сялянам падабаецца палітыка ўрада Ежы Бузка. Зусім наадварот, але пратэстаў яны ніякіх не арганізавалі.

Беларусы, безумоўна, не з'яўляюцца рэвалюцыянерамі. Да ўсялякіх зменаў ставяцца яны пасіўна. Праваслаўны люд шануе кожную ўладу і таму ўсе змены прыходзяць да нас без нашага ўдзелу. Гэтым разам вышэйшыя цэны на мяса праваслаўныя сяляне атрымаюць у выніку змагання на дарогах, між іншым, замброўскай і ломжынскай шляхты. (ям)

# Ліцэйскі рэйтынг

У „Газеце выборчай" нядаўна былі аб'яўлены рэзультаты IV Рэйтынгу агульнаадукацыйных ліцэяў за 1997/98 году ў былым Беластоцкім ваяводстве. Арганізавалі яго кураторыя асветы ў Беластоку і рэдакцыя газеты.

Абодва нашы беларускія ліцэі ў Гайнаўцы і Бельску набралі ў гэтым спаборніцтве па 135 балаў і апынуліся на 6 і 7 месцы. Лепшыя месцы занялі толькі беластоцкія ліцэі і ліцэй у Саколцы. Сёлетнія выпускнікі падставовых школ, якія будуць выбіраць сярэднюю школу, павінны ведаць, што ў рэйтынгу прымалі ўдзел таксама і іншыя ліцэі з Гайнаўкі і Бельска, але іх вынікі аказаліся намнога горшымі. I Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы набраў 95 балаў і апынуўся на 17 месцы, III Агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску-Падляшскім набраў 70 балаў і заняў 22 месца, а IV Бельскі ліцэй набраў 50 балаў і апынуўся аж на 26-27 месцы.

Параўноўваючы вынікі з мінулагоднімі, трэба адзначыць, што Гайнаўскі белліцэй набраў на 40 балаў больш і пераскочыў з 13 месца на ўспамянутае 6-7, а Бельскі белліцэй сабраў на 7 балаў менш чым у мінулым годзе. У кваліфікацыі зышоў з 5 на згаданае 6-7. На падставе табліцаў з баламі, якія арганізатары апублікавалі ў „Газеце выборчай", цяжка правесці нейкі аналіз і даць ацэнку школам у паасобных дзялянках іх працы, бо нават і для самых школ невядомыя былі канкрэтныя крытэрыі ацэнак. Вядома, што ліцэі ацэньваліся на падставе вынікаў вучобы ў падставовай школе кандыдатаў у ліцэі, рэзультатаў матуральных экзаменаў, поспехаў у прадметных алімпіядах і конкурсах, колькасці выпускнікоў, якія паступілі ў вышэйшыя ўстановы, пазаўрочнай працы і ўмоў працы ў школах. Выказацца наконт рэзультатаў рэйтынгу і ўдзелу ў ім белліцэяў папрасіў я дырэктараў:

**з Гайнаўкі**

— Мы вельмі задаволены нашымі вынікамі, бо аж з 13 месца ў папярэднім рэйтынгу пераскочылі на 6 месца, — кажа Аляксандр Лаўрыновіч, намеснік дырэктара Гайнаўскага белліцэя. — Можа раней не ўсе інфармацыі аб нашай школе былі даступнымі. Апошнім часам добра папрацавалі вучні і настаўнікі і хаця ў школе былі фінансавыя складанасці і вялікая канкурэнцыя, рэзультаты атрымаліся станоўчыя. Напэўна цяжка нам спаборнічаць з найлепшымі беластоцкімі ліцэямі, бо там намнога больш здольных вучняў ідзе ў найлепшыя ліцэі, але ў нас трэба прымаць і слабейшых вучняў. Апублікаваныя вынікі непразрыстыя і цяжка на падставе іх зрабіць высновы на будучыню. Напрыклад, наша школьная база вельмі добрая і на нашу думку магла б быць вышэй ацэнена.

**З Бельска-Падляшскага**

— На маю думку рэзультаты рэйтынгу непразрыстыя і цяжка на падставе іх ацэньваць нават і свой ліцэй, — кажа дырэктар Бельскага белліцэя Зінаіда Навіцкая. — Не ведаю таксама адкуль паявілася інфармацыя, што толькі 70,3% нашых абітурыентаў паступіла ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, калі я выслала інфармацыю, што 84,61% нашых вучняў стала студэнтамі. Лічу я, што найважнейшыя вынікі па вучобе і, перад усім, паводле іх трэба ацэньваць школы. Апошнім часам атрымала я ліст ад арганізатараў рэйтынгу варшаўскіх ліцэяў, якія разам з часопісам „Перспектывы" вылучаюць найлепшых паводле поспехаў у цэнтральных элімінацыях прадметных алімпіяд. Паводле сваіх крытэрыяў заўважылі яны наш ліцэй, як найлепшы ў Беластоцкім ваяводстве і прасілі выслаць поўную анкету. Лічаць яны так, што колькасць лаўрэатаў умнажаюць на два і дабаўляюць да гэтага колькасць фіналістаў, а пасля ўсё гэта дзеляць на колькасць вучняў. У выпадку нашага ліцэя не звярталі яны ўвагі на Алімпіяду беларускай мовы, а палічылі 1 лаўрэата і 7 фіналістаў і падзялілі праз 455 вучняў і атрымаўся вынік 0,0198. Параўноўваючы з варшаўскімі ліцэямі апынуліся мы на 7 месцы, а найлепшы ліцэй у сталіцы меў рэзультат 0,0461. Калі паводле гэтых крытэрыяў ацэньваць найлепшы І Беластоцкі ліцэй, то ён горшы за наш, бо сярэдняя там складае 0,0093 бала. Вось так, як у Варшаве і ў нас павінны ацэньваць рэзультаты нашай працы.

**Аляксей Мароз**

# Напалеон і беларусы Падляшша

У гэтага француза з Корсікі — былога артылерыста — было патрабаванне, каб кожны заваяваны ім горад на яго прывітанне даваў пачэсны гарматні залп. Калі неяк гэтай павіннасці не споўнілі, Банапарт паклікаў бурмістра. Той, чырвоны бы рак, прамармытаў: „Прабачце, аднак жа было для гэтага сто дзесяць прычын". „Якіх?" — забурчаў Напалеон. Той яму кажа: „Перад усім не было ў нас гарматаў". — „Досыць, — спыніў яго пераможца, — іншыя прычыны мяне не цікавяць".

Так і ў рэчаіснасці Беласточчыны ёсць толькі адна галоўная падстава для таго, каб беларуская мова ўмірала. А што гэта факт, хто слухае і чытае, той ведае.

Вось 3.02.1999 г. Радыё „БІС" а $13^{00}$ гадзіне перадало вельмі салідную праграму „Беларусы ў Польшчы", а ў ёй інфармацыю, што толькі 3 000 беларускіх школьнікаў вучыцца сваёй мове звышпраграмна ды лік ахвотных няспынна памяншаецца!

А ў „Ніве" было напісана, што моладзь у арлянскай школе зусім не чытае 850 беларускіх кніг у тамашняй бібліятэцы.

Ніхто не піша і не думае пра прычыну гэтага, а яна відавочная паводле маіх даследаванняў, праведзеных на падставе „Беларуска-рускага слоўніка" пад рэдакцыяй акадэміка АН БССР К. К. Крапівы (Масква, 1962), выдадзенага толькі 15-тысячным тыражом. У ім 90 000 слоў. Столькі слоў не ведае ў польскай мове ніхто, акрамя спецыялістаў высокага рангу. Думаць, значыцца, лічыць. А вывады толькі тады верагодныя, калі маем параўнальныя лікі. Вось я паставіў сабе пытанне, колькі карэнных беларускіх слоў трэба пазнаць, ведаючы вельмі добра рускую ды польскую мовы! Вельмі нудная і цяжкая гэта праца, але што ж рабіць? Цярпець дый годзе... Адказ атрымаўся ашаламляльны, бо гэтакіх спецыяльна беларускіх аказалася менш як 3 тысячы. Праўда ў Сakrata Яновіча трапляюцца і такія словы, якіх не знойдзеш у вышэйпамянёным акадэмічным слоўніку ды іх толькі жменька і яны на агульны баланс не ўплываюць. Мо ў іншых пазнейшых слоўніках у Мінску яны і прыведзеныя. Калі не, тады аўтар павінен даваць зорку ў тэксце (астэрыкс), а ўнізе старонкі памяшчаць аб'ясненне. Так на свеце робіцца.

„Беларуска-польскі слоўнік" не існуе, бо я б яго бачыў. Слоўнік на 90 тысяч слоў? — гэта патрабуе капіталу. Хто ведае, мо ў Мінску хтосьці яго апрацоўвае, але пакуль падляшскія чытачы не могуць прабіць галавою мур, г.зн. чытаць увесь час спатыкаючы перашкоды ў форме незнаёмых слоў. Гэта ўсякага студэнта бянтэжыць, збівае з панталыку.

Вось Мікола Гайдук напісаў па кропцы і перад кропкай слова „зудна". У маім вялічэзным слоўніку яго няма. І што ж, ісці мне, інваліду, у бібліятэку Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук, шукаць там тлумачальны слоўнік, або слоўнік дыялектаў, або дурыць галаву знаёмым беларусам? Нат маючы слоўнік — кожны гэта ведае — шукаць дзіўнае слова мучыць, забівае ахвоту да чытання.

Такім чынам у бурмістра не было гарматаў, а ў беларускай падляшскай моладзі няма гэтак званага дыферэнцыяльнага слоўніка. Хто мне скажа, што 200 тысяч беларусаў у нашай дзяржаве не здольны сабраць грошай на выданне яго — буду рагатаць... Адзін айцец А. Дзевятоўскі з Гайнаўкі так доўга сам збіраў ахвяраванні (не ўсе давалі ж), ажно збудаваў слаўны сабор, дзе пры алтары яго і пахавалі. Хай будзе сорамна тысячам, што хварэюць на абулію, г.зн. страту волі. А час уцякае не днямі, а гадзінамі...

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Адпачынак у арлянскай школе

**Школа ў Орлі ў час зімовых канікулаў пульсавала жыццём. Ад 25 студзеня да 3 лютага адпачывалі тут скаўты з амаль усіх кварталаў Беластока.**

Зімовы адпачынак для 140 гарцэраў сарганізаваў III Інструктарскі круг „Губальчыкі". У Орлю прыехалі вучні старэйшых класаў пачатковых школ і ліцэйская моладзь разам з дзесяццю інструктарамі і медсястрой. Былі гэта прадстаўнікі адзінаццаці скаўцкіх дружын з розных школ Беластока.

— Канікулы ў Орлі гэта ініцыятыва інструктараў, — сказала дружыновая 41 дружыны „Шанец" праваднік Агнешка Атаповіч. — Нашай мэтай, апрача адпачынку, з'яўляецца інтэграцыя гарцэрскага асяроддзя і падвядзенне вынікаў паўгадовай працы. Такія мерапрыемствы праводзім па-за Беластокам, у малых мясцовасцях. Раней былі мы ў Міхалове і Дабжыневе. Школа ў Орлі ў параўнанні з іншымі — гэта сапраўды вялікі аб'ект.

— У гарадскіх дзяцей малая мясцовасць выклікае сапраўдную цікавасць, — кажа камендант лагера гарцмістр Катажына Зубкевіч, — нягледзячы на ступень атракцыйнасці прапанаваных заняткаў. Самае важнае, што тут свежае паветра, цішыня і лес.

Мароз і грып заставілі малодшых удзельнікаў зімовага лагера займацца ў будынку. Але старэйшыя гарцэры, апранутыя ў маскіровачныя — зялёныя з плямамі і белыя — мундзіры, з насілкамі і санітарнымі сумкамі трэніраваліся ў ваколіцы.

— Такім чынам засвойвалі мы праграму „Будзь гатоў!", — тлумачаць мне інструктары. — У мінулым годзе гарцэры прымалі ўдзел у акцыі дапамогі пацярпелым ад паводкі. Цяпер стараемся падрыхтаваць нашых скаўтаў так, каб яны ўмелі дапамагчы людзям пацярпелым у выніку любога стыхійнага бедства.

Падчас заняткаў у будынку кожны інструктар вёў заняткі па гісторыі скаўтынгу, вучыў гарцэраў мілаеэрнасці, наладжвання кантактаў з людзьмі, будавання даверу ў групе. Заняткам спадарожнічалі турніры і гульні.

Напярэдадні заканчэння лагера гарцэры праводзілі ў групах генеральную рэпетыцыю спектакля: адны рыхтавалі музычную частку, другія — драматычную, а трэція — сцэнічнае афармленне. Вечарам, пасля ўрачыстай вячэры пры свечках, адбыўся спектакль „Зімовішча Орля", на які былі запрошаны дырэктар Яўгенія Васілюк і персанал школы.

Ці прыедуць яшчэ беластоцкія гарцэры на адпачынак у Орлю? Мабыць так, сказалі інструктары, але гэта можа здзейсніцца ў далейшым будучым, бо за кожным разам шукаюць яны новай школы і новага лесу.

**Міхал Мінцэвіч**

# Хочам стварыць комплекс

— Хочам стварыць комплекс школ з беларускай мовай навучання, дзе вучыліся б і дзеці, і моладзь ад першага класа падставовай школы да трэцяга класа ліцэя, а навучанне беларускай мове было б абавязковым, — кажа дырэктар Бельскага белліцэя Зінаіда Навіцкая. — Былі ўжо кансультацыі з бацькамі нашых вучняў і настаўнікамі, якія падтрымліваюць нашу ідэю.

Комплекс школ патрабуе адной дырэкцыі і вырашэння аб фінансаванні, паколькі ліцэі карыстаюцца павятовым бюджэтам, а падставовыя школы і гімназіі ўтрымліваць будуць гміны. Аднак усе яны працуюць за сродкі Міністэрства нацыянальнай адукацыі.

— Мы ва ўправе разглядаем зараз справы стварэння гімназій у Бельску-Падляшскім, — кажа бурмістр Андрэй Сцепанюк. — Рыхтуючыся да размяшчэння гімназій у горадзе, звяртаем увагу на патрэбы вучняў, размяшчэнне школьных будынкаў, колькасць настаўнікаў у паасобных школах і ў дамоўленасці з кураторыяй будзем ужо ў Гарадской радзе вырашаць канчатковае размяшчэнне гімназій. Трэба гэта зрабіць да 15 сакавіка, а да 15 красавіка — прызначыць іх дырэктараў. Плануем стварыць у Бельску тры гімназіі і напэўна адна паўстала б у Падставовай школе н-р 3 з навучаннем беларускай мове. Даведаўся я аб задуме стварэння комплексу школ з беларускай мовай навучання, у склад якога ўвайшоў бы і белліцэй. Гэтую ідэю буду падтрымліваць. Добра было б, каб абавязковае навучанне беларускай мове захавалася ад наймалодшых да выпускнікоў ліцэя, а маглі б там вучыцца ўсе ахвотныя, бо былі б гэта школы безакруговыя. Нефармальныя сувязі, якія цяпер захаваліся паміж „тройкай" і белліцэем становяча ўплываюць на набор кандыдатаў у ліцэй. У апошніх гадах каля 90% першакласнікаў састаўляюць выпускнікі „тройкі", а ўзровень навучання ў абедзвюх школах — высокі. Аднак, каб стварыць згаданы комплекс патрэбна яшчэ згода Рады горада і ўлад павета.

— У час сустрэчы дырэктараў сярэдніх школ са старастам Маркам Лукашэвічам, якая адбылася 27 студзеня г.г., пыталася я наконт магчымасцей стварэння ў нас комплексу школ і гэтым самым пераходу ліцэя ў распараджэнне горада, але стараста ўвогуле не хацеў гаварыць, ні аб гэтым, ні пра гімназіі, — кажа дырэктар Зінаіда Навіцкая. — А калі ж пра іх гаварыць, калі ў сакавіку трэба вызначыць ім месца. Пакуль яшчэ кураторыя не перадала нашы школьныя памяшканні ў распараджэнне павета, можна было б перадаць іх адразу гораду, які з'яўляецца ўжо ўласнікам памяшканняў „тройкі". Час пакажа, ці нашы справы блізкі павятовым уладам.

**(ам-з)**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Простыя словы

*(песня з „Народнага альбому")*

Простыя словы, простыя рэчы,
Хлеб на стале, полымя ў печы.
Гэта так проста, гэта так добра,
Як з галавою залезці
пад коўдру.

Простыя словы... *х 2*

Прыцемкам сінім, зімовай
парою
У доме бацькоўскім усё
так знаёма,
Ёсць чым сагрэцца, ёсць дзе
схавацца
У доме бацькоўскім,
у матчынай хаце.

Простыя словы... *х 2*

Усё так надзейна, усё так
грунтоўна,
Што тут дадаць? Хіба, што
нічога.
Можна жыць далей, дзень
прыйдзе новы.
Дабранач паненкі, дабранач
панове.

Простыя словы... *х 2*



*Удзельнікі XVI Сустрэч „Зоркі" ў пастаноўцы „Куль".*

## XVI Сус[...]

## Старына[...]

**XVI Сустрэчы „Зоркі"** праходзілі ў днях 31.01. — 6.02.1999 г. у Старыне, што ў гміне Дубічы-Царкоўныя. У мерапрыемстве ўдзельнічала 46 асоб з Бельска-Падляшскага, Падрэчан, Ласінкі, Нарвы, Беластока, Гарадка, Новага Беразова, Гайнаўкі, Дубіч-Царкоўных, Ягаднік, Тафілаўцаў, Грабаўца, Мінска, Варшавы, Войнаўкі.

На працягу тыдня маладыя карэспандэнты і сімпатыкі нашай старонкі знаёміліся з асноўнымі жанрамі журналістыкі. Даклады і практычныя заняткі вялі: Віталь Луба (прэсавая інфармацыя), Аляксандр Максімюк (эсэ), Мікола Ваўранюк (рэцэнзія), Ганна Кандрацюк (рэпартаж), Жанэта Роля і Міхась Сцепанюк (фельетон).

Удзельнікі сустрэліся з журналістамі беластоцкага тэлебачання і радыёперадачы „Пад знакам Пагоні". Наведалі польска-беларускую мяжу, жыхароў вёсак Гурыкоўшчына, Бобэнка і Старына. Атракцыёнам быў таксама куліг па Белавежскай пушчы з вогнішчам і печанымі каўбаскамі. Сустрэчы завяршыліся пастаноўкай андэграўндавай п'есы пад загалоўкам „Куль". Спектакль узнік пад кірункам Аліны Ваўранюк і Сяргея Патаранскага. Сцэнічнае афармленне прыдумала „Сустрэчам" Іаланта Кабзар, касцюмы зрабіла Галіна Бялькевіч, а музыку і харэаграфію Алег Кабзар і Пятрусь Пракопчык. Сцэнарый спектакля ў многім прыдумалі самі ўдзельнікі, якія згодна з духам твора і ўсяго мерапрыемства вучыліся і гулялі — КУЛЬ!

Арганізатары і ўдзельнікі XVI Сустрэч „Зоркі" дзякуюць сваім спонсарам:

**— Міністэрству культуры і мастацтва РП**

**— Польскаму Фонду дзяцей і моладзі.**

Зорка

## За шчырасць і адвагу

Удзельнікі XV Сустрэч „Зоркі" ў Падцэрквах, у сярэдзіне Белавежскай пушчы, вучыліся браць і пісаць інтэрв'ю. З вялікай прыемнасцю чытаў я пазней іхнія тэарэтычныя пытанні, пастаўленыя раднаму, войту, генералу, славутаму акцёру, настаўніцы беларускай мовы і міністру нацыянальнай адукацыі.

Тое, што і мяне запрасілі ў Падцэрквы выступіць з кароткім дакладам, было мне гонарам. Слухачы аказаліся не толькі таленавітымі, але і працавітымі. Пасля сустрэч даслалі яны ў „Зорку" вельмі цікавыя інтэрв'ю.

Міхась Сцепанюк і Юрка Буйнюк скарысталі нагоду ўжо падчас сустрэч. Першы запісаў размову з дзяўчынай, якая ўсё жыццё жыве ў Белавежскай пушчы, а другі — з журналістам Беластоцкага радыё Юркам Ляшчынскім. Абодва аўтары выявілі сябе спелымі журналістамі — знайшлі цікавых



людзей, арыгінальна і цікава павялі размову.

Вучаніцы бельскай „тройкі" Жанэта Роля і Кася Лукашук правялі некалькі размоў: з мамамі, бабулькамі і нават прабабкай. Леглі яны ў аснову цікавага нарыса пра традыцыі святкавання Каляд у ваколіцах Бельска. А Тамаш Дзямянюк і Аліна Сіроцкая з Пачатковай школы ў Чыжах знайшлі цікавых субяседнікаў у сваёй мясцовасці. Тамаш пагутарыў з дырэктарам Гміннага асяродка культуры і заадно рэдактарам „Чыжоўскай газеты" Юркам Якімюком, а Аліна — са сваёй настаўніцай беларускай мовы Аннай Лаеўскай.

Гэтая апошняя размова мне найбольш спадабалася. Па-першае, трэба адвагі, каб звярнуцца з пытаннямі да настаўніцы. Па-другое, трэба ўмець выцягнуць, здавалася б, з самага звычайнага, запрацаванага чалавека цікавыя інфармацыі. І найважнейшае: Аліна не пазбягае цяжкіх пытанняў (напрыклад, пра мову ў сям'і настаўніцы) і, гэта адчуваецца, атрымалася шчырая, цёплая размова пра жыццё, звыклыя клопаты. Гэта таксама можа быць цікавым!

Як і абяцаў падчас Сустрэч „Зоркі", касету з відэазапісам мінулагодняга Фестывалю маладой Беларусі „Басовішча" я вырашыў падараваць Аліне Сіроцкай. Аднак, усе іншыя інтэрв'ю таксама ўдаліся. Не пасароміліся б іх і вашы крыху старэйшыя калегі па пяру.

Мікола Ваўранюк



*Канферансье спектакля „Куль" — Аня Фіёнік.*



**Жанэта Роля** і **Міхась Сцепанюк** (на здымку) — вядучыя фельетаністы „Зоркі” — выступілі перад шырокай грамадой XVI Сустрэч „Зоркі” ў якасці дакладчыкаў. Маладыя лідэры зай― мальна вялі заняткі. Міхась Сцепанюк пачаў з сюрпрыза — конкурсу: раздаў картачкі і прапанаваў за некалькі хвілін намаляваць усё тое, што звычайна размалёўваем у час дакладаў. Пасля *фельетоннага* ўступу Міхась падзяліўся тэарэтычнымі ведамі пра фельетон. Трэба адзначыць, што былі яны багатыя і інтэлігентна прадстаўлены. Жанэта Роля гаварыла пра сітуацыі, у якіх узнікалі яе фельетоны. Аўтарка „Элегантнай дзівачкі” расказала таксама пра паслядоўнасці экстравагантнага выказвання сваіх думак. На жаль, не ўсе разумеюць аўтарскую аўтаіронію і спецыфіку жанру.

— Калі пытаюць, чаму героямі маіх фельетонаў часта з'яўляецца мая сям'я, адказваю: *Маю надзею, што яны прачытаюць мой артыкул*.

І Жанэта, і Міхась свой першы фельетон напісалі не ведаючы яшчэ гэтага журналісцкага жанру — інстынктыўна. Зачытаныя фельетоны былі ўзнагароджаны бурнымі апладысментамі. Некалькі гадзін пазней узніклі ўжо першыя фельетоны.

Сёння друкуем фельетон ліцэістак — Агнешкі Галімскай і Ані Садоўскай пад загалоўкам „Абстрыжаная беларускасць”.

**Зорка**

# ...рэчы „Зоркі”

## ...31.01 – 6.02.1999

**Агнешка Галімская**

* * *

Я ўжо не магу заклінаць на ўраджай
Ты ўжытак на насенне ўяўляеш сабой
Паводле формулы згодна з міфалогіяй
Вылучаецца вобраз папулярнасці і разнастайнасці
Справядліва снуюцца драматычна-лаканічныя лініі контура
Ананімныя дуэты

# Журналісцкая крыжаванка




Запоўніце клеткі адпаведнымі словамі. Атрыманы лозунг дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды

**Адказ на крыжаванку н-р 4:** Булава, этап, абак, драла, алёс, харыст, раман, палын, бегуўня, бохан, рай, дуэт, тарпаны, мох. Хабар, подрыг, прынада, балт, пята, Лі, араб, валасок, аб'ём, асада, нюх.

Узнагароды, **сегрэгатары**, выйгралі: **Анджэліна Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага і **Алёна Масайла** з Беластока. Віншуем!

Талон „Зоркі” № 8 21.02.1999

# Абстрыжаная беларускасць

*(фельетон)*

Вядома, што перыяду дарастання спадарожнічае бура гармонаў. Між іншым дзякуючы ім я пераходжу маладзёвую эвалюцыю. Кожны падлетак ведае, што дарастанне — гэта не простая справа.

Зараз я ў сярэдняй школе. Паступіўшы туды на навуку мае думкі пакаціліся іншымі каляінамі. Яшчэ год таму я захаплялася фільмамі тыпу „забілі яго і ён уцёк”. Я вырашыла быць героем такога фільма, які тады мне паказаўся вельмі рэальным. У пэўны момант у маёй галаве з'явілася думка забіць першую, напатканую асобу. Вечарам, калі я легла спаць, усё думала пра тэхналогію забойства. Рэквізітамі гэтага злачынства маглі стацца:

— нож,
— „калашнікаў”,
— мыш'як,
— бейсбольная палка.

І дайшла я да вываду, што найлепш будзе пакарыстацца апошняй прыладай.

Пасля кансультацый з лекарам мая вялікая мара наконт грудзей развеялася. Радасць з маіх валасоў зацьміў факт, што смяяліся з іх у класе. Шкада, яны разумелі, што яркі блёнд — гэта сімвал сексу. І свядомасць, што ў жыцці трэба дапасавацца да існуючага парадку прымусіла мяне памяняць колер чупрыны. Пасля гэтай практыкі мае валасы сталі шэрымі і кволымі, пачалі ламацца. Тады я рашыла пакарыстацца цудоўнымі шампунямі, праслаўленымі ў медыяльным свеце. Яны за тры дні абяцалі даць мне „włosy tak piękne i zdrowe, że aż lśnią”. І які быў эфект? Валасы ўжо не мая праблема — я стала лысай. І згодна са сваім новым *іміджам* я паехала на фестываль у Ярацін. Пабачыла я там класных скінаў. Мой *фрыз* перастаў мне падабацца. Шукаючы акцэптацыі я паўтарала ўсім, што ўяўляю сябе скінам. На жаль, я не ведала сэнсу іхняй ідэалогіі. Маё светабачанне не адрознівалася ад свядомасці большасці скінаў, якія на пытанне пра іх ідэалогію адказвалі маўчаннем. Калі я пачула, што яны нацыяналісты, мне адхацелася папаўняць іх рады.



*Лявоніха ў рытме рэгге.*

Першай напатканай асобай, раніцай ужо, была мая сімпатыя. Дагэтуль Ён не заліў мне сала за скуру і таму пэцкаць свае чыстыя рукі крывёй паказалася мне дурнотай. Ды пасля гэтай „спробы” мяне зусім пакінула ахвота гуляць у забойцу.

Затым месца сенсацыйных фільмаў занялі газеты для дзяўчат тыпу „Bravo Girl”, „Miss Beauty”. Ідалам сталася, зразумела, Памела Андэрсан. Я пафарбавала валасы на „попельны блёнд”. Я стаяла перад люстрам і думала як тут павялічыць сабе грудзі?!

Адраслі ўсё ж мае валасы. З імі вярнулася мая беларускасць, я стала звычайным, смешным падлеткам.

Маю надзею, што мае дзеці не будуць паўтараць мае шляхі-жахі і ў цяжкія хвіліны папросяць дапамогі. І дзякую сродкам масавай інфармацыі, што даюць цудоўныя рэцэпты на шчасце.

**Агнешка Галімская, Аня Садоўская**



*Сцэнка „Аліцыя”.*

Фота на стар. 6 і 7 — Ганна Кандрацюк

# Павятовыя сустрэчы ў Гайнаўцы



Спяваюць жанчыны з Крыўца.

У Гайнаўскім доме культуры 31 студзеня 1999 года адбыліся павятовыя мастацкія сустрэчы беларускіх калектываў Гайнаўшчыны.

— Ведаючы аб цікавасці гайнаўскай публікі да фальклорных мерапрыемстваў і маючы на ўвазе выканаўцаў, якія ахвотна ў нас спяваюць, але апошнім часам на аглядзы беларускай песні ездзілі ў Кляшчэлі, вырашылі мы аднавіць сустрэчы, якія адбываліся яшчэ ў старым павеце, — сказаў дырэктар ГДК Мікола Бушко. — Я, як радны Гайнаўскага павета, палічыў сваім абавязкам аднавіць тыя добрыя традыцыі інтэграцыі мастацкіх калектываў, што і атрымала падтрымку павятовых улад. У фестывалях „Беларускай песні” не хапае супольных бясед і размоў, а гэта вельмі важнае для лепшага знаёмства.

Мастацкія сустрэчы пачаліся з выступлення „Крыўчанак”. Жанчыны з Крыўца выступаюць на аглядах толькі чатыры гады, але і раней вядомыя былі сваімі спевамі ў роднай вёсцы.

— Мы і не памятаем, каб калі раней быў у нашай вёсцы калектыў. Спявалі мы на хрысцінах, вяселлях, паховінах, на лавачцы спявалі агулькі, веснавыя, сенакосныя, жніўныя і асеннія песні, але цяпер усё гэта ўжо прападае. Маладыя людзі не хочуць спяваць разам з намі, дык мы вырашылі паспяваць перад вялікай публікай і чатыры гады таму стварылі калектыў, — расказвае Люба Дубко з Крыўца. — Даўней найчасцей спявалі ў нас жанчыны апранутыя ў белыя блузкі і чорныя спадніцы і мы так апранаемся, калі выступаем, а мяняем толькі хусткі. Куды нас запрашаюць, туды і едзем. Апошнім часам спявалі на сустрэчах каляднікаў у Гайнаўцы і Нарве. Прапанавалі нам нават да украінцаў запісацца, але мы сказалі, што нашы дзяды і бацькі былі беларусамі і мы беларусамі застанемся.

— Песень сваіх мы не апрацоўваем, а спяваем тое, што памятаем з маладосці. Сёння заспявалі мы адну маслену песню „Сёлом еду, сёлом еду”, якую спявалі калісь ездзячы ад вёскі да вёскі, — дадае крыўчанка Ніна Вяршко. — Другую песню „Ой, там на болоті журавэль воду носіт” спявалі ўжо на лавачцы.

У час гайнаўскіх сустрэч неапрацаваны мясцовы фальклор прэзентавалі не толькі „Крыўчанкі”, але большасць калектываў. Перад гайнаўскай публікай выступілі выканаўцы са Збуча: салістка Анна Якімюк, дуэт Ніна Хворась і Кацярына Цыханюк і ўвесь калектыў „Збучанкі”, калектыў з Нараўкі, „Чыжавяне” з Чыжоў, „Незабудкі” з Курашава, „Каліна” з Дашоў і, як апошні, гаспадар — калектыў ГДК. Выступалі і жанчыны, і мужчыны, і салістка Ала Мядзведзь, а рыхтавала ўсіх Анна Стрыха з Беларусі.

— Ужо ад нейкага часу беларускі калектыў ГДК пайшоў у напрамку выступленняў з аўтэнтычнымі нашымі фальклорнымі песнямі. Лягчэй нам іх выконваць і публіка лепш іх успрымае, а маючы на ўвазе маладых, вельмі важным з'яўляецца вяртанне да каранёў, — кажа дырэктар Мікола Бушко. — Ад некалькіх гадоў у рамках „Панарамы фальклору Гайнаўскай зямлі” паказваем мы ў ГДК нашы калектывы. Выступалі ўжо ў нас жанчыны з Дабрывады, Арэшкава, Курашава, Тыневіч, ну, і „Чарамшына”. Апрача выступленняў калектываў была і інфармацыя пра іх, запісванне рэпертуару і выдаванне касеты. Такія конкурсы будзем ладзіць і надалей, а праз год думаем арганізаваць ізноў павятовыя сустрэчы, бо бачым, што ёсць зацікаўленне. Пасля сёлетняга канцэрта будзе яшчэ і час на супольную бяседу за шклянкай гарбаты, калі можна будзе больш паразмаўляць, паспяваць і патанцаваць.

Пасля выступлення беларускага песеннага калектыву ГДК Ірэна Парфянюк, якая таксама ў ім спявала, напомніла публіцы, што якраз мінае 20 гадоў працы ў ГДК дырэктара Міколы Бушко і сардэчна павіншавала яго ад імя ўсіх супрацоўнікаў. Да пажаданняў далучыліся таксама староста Уладзімір Пятрочук і бурмістр Анатоль Ахрыцюк ды гледачы.

— Я быў вельмі міла здзіўлены, бо і сам не памятаў, што мінае столькі гадоў маёй працы, — сказаў дырэктар Мікола Бушко.

— Добра было б, каб у будучыні можна было даць яшчэ больш ружаў, — сказала намеснік дырэктара ГДК Ірэна Парфянюк, а ўсе прысутныя заспявалі юбіляру „Многая лета”.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

## Нараўчанскай бібліятэцы — 50

На самым пачатку сваёй дзейнасці Гмінная публічная бібліятэка (ГПБ) у Нараўцы знаходзілася ў невялікім пакойчыку ў будынку кінатэатра „Лес”. Першай бібліятэкаршай была Лідзія Бяляўская. Спачатку мела яна ўсяго 240 кніжак, а ў 1950 годзе — два разы больш.

— У пасляваенныя гады жыхары Нараўкі ўсё ж ахвотна наведвалі бібліятэку і бралі кніжкі да чытання, — успамінае Л. Бяляўская. — Трэба было адкрываць бібліятэчныя пункты ў Старым Ляўкове, Луцэ і Сямяноўцы.

Лідзія Бяляўская працавала ў бібліятэцы дванаццаць гадоў, да верасня 1960 года.

Наступныя дзевяць гадоў ГПБ вяла Ніна Сікорская, а затым ад 1969 па 1989 год — Зыта Савіцкая. Да 1993 года бібліятэка знаходзілася ў будынку Гміннай управы, якую тады перавялі ў мураваны асабняк па вул. Белавежскай. І мела яна шмат месца, як ніколі раней. А ўжо з 1993 года бібліятэка мае сваю сядзібу ў прыгожым нованабудаваным Гмінным асяродку культуры, дарэчы... на пляцы, дзе знаходзіўся колішні кінатэатр „Лес”. Цяпер ГПБ мае 11-тысячны кнігазбор, выпісвае дзесяць газет і часопісаў. У ёй звыш дзесяці гадоў працуюць Мар'я Урбановіч і Анна Стульгіс.

Актыўных чытачоў шмат сярод дарослых і моладзі. У групе дарослых найбольш чытаюць Данута Межаеўская, Галіна Стальбоўская, Марта Казёл, Яцэк Янюк, Крыстына Харкевіч, Мікалай Трусевіч, Вера Пацэвіч, Міраслаў ЗдаНоўскі, Віктар і Лідзія Пякарскія, Мар'юш Янушкевіч, Мар'я Раманчук, Бажэна Болтрык, Альжбета Внук, Вольга Максімюк, Вера Фібік, Ліля Рубчэўская, Рыгор Пацэвіч, Барбара Гарустовіч, Анна Стоцкая і Галіна Бароўская.

З нагоды юбілею прадстаўнікі гмінных нараўчанскіх улад запрасілі ўсе бібліятэкаркі, у тым ліку і з бібліятэчных філіялаў: Аляксандру Бірыцкую (зараз яна на пенсіі) і Галіну Панькоўскую з Сямяноўкі ды Аліну Барташук са Старога Ляўкова. Усе яны атрымалі ўзнагароды. Былі віншаванні і ад ваяводскіх улад.

У мастацкай частцы на нараўчанскай сцэне выступілі два аматарскія мастацкія калектывы: фальклорны ды вакальна-танцавальны „Душкі з пушкі” з Нараўкі. **(гай)**

# Мастацкія канікулы



*Дзяўчаткі ткалі цікавыя ўзоры.* Фота Аляксея МАРОЗА

У Бельскім доме культуры ў час зімовых канікулаў адбывалася многа сустрэч, заняткаў і гульняў арганізаваных не толькі для пастаянных удзельнікаў розных дзіцячых і маладзёжных кружкоў і калектываў, якія дзейнічаюць пры доме культуры. Ахвотна прыходзілі вучні падставовых і сярэдніх школ, зацікаўленыя мастацтвам, музыкай, танцамі і тэатрам.

— Вырашылі мы, што ў час гэтых канікулаў больш заняткаў і гульняў арганізаваць будзем для тых вучняў, якія засталіся дома, — кажа дырэктар БДК Сяргей Лукашук.

— Сустракаемся мы ў рамках калектываў „Дзявочыя ноткі” і „Дзіравы вігвам”, каб рыхтавацца да выступленняў, але многія нашы заняткі адкрытыя для ўсіх дзяцей, якія схочуць пабачыць нашу працу і самі паспяваць, — гаворыць музычны інструктар Юстына Пажазінская. — Моладзь з нашых калектываў на канікулах сустракаецца часцей. Праводзім з імі заняткі па дыкцыі, эмісіі голасу, а астатнія дзеці гуляюць у розныя гульні, могуць спяваць.

Апрача заняткаў у клубе бальнага танца „Кадрыль гамма” іншыя вучні прыходзілі вучыцца танцаваць вядомым танцам. Заняткі з тэатральнай групай вяла Альжбета Фіёнік, але і тут было месца для аматараў тэатра.

Малодшыя вучні (да 12 гадоў), якія звычайна сустракаюцца раз у тыдзень у рамках мастацкай групы „Каляж” прыходзілі ў першым тыдні канікулаў штодзень і займаліся жывапісам, разьбой і ткацтвам. Тэмай прац былі зімовыя пейзажы і карнавальныя гульні. Цікавыя персанажы фільмаў і казак можна было глядзець пасля на выстаўцы. Фігуры пустэльнікаў і чараўніц выконвалі яны з дроту, гіпсу і гліны.

Вучні вельмі ахвотна выконвалі працы тэхнікай лінагравюры, а дзяўчаткі ткалі паводле загадзя падрыхтаваных узораў.

— Мая праца тычыцца зімы, бо ўспамінаю сваю пабыўку ў бабулі, калі многа часу праводзіла я на свежым паветры, — кажа Агнешка Нівінская, якая працуе тэхнікай лінагравюры.

— Я выконваю фігуру Зімы, бо запамятала яе добра з фільма, — паказвае Ганна Лянкевіч.

— Сярод дзетак, якія першы раз прыйшлі ў час канікулаў таксама відаць здольнасці. Менавіта тых найбольш таленавітых запрашаем пасля на нашы заняткі, — кажа Марыя Бабулевіч, якая вядзе мастацкія гурткі. — Наймалодшыя дзеткі на свой першы карнавальны баль рабілі маскі. Будуць яны пераапранацца за розных жывёл і цікавыя персанажы.

На заняткі старэйшай групы „Каларыт” прыходзіць ужо самая здольная моладзь. — Найстарэйшыя вучні будуць выконваць эскізы ды выявы дзіцяці, выкарыстоўваючы алоўкі, пастэлі або яшчэ іншую тэхніку, а пасля возьмуцца за нацюрморт. Ёсць сярод іх і выпускнікі, якія рыхтуюцца да экзаменаў у вышэйшыя ўстановы на архітэктурнае аддзяленне, — расказвае Марыя Бабулевіч. — Рэзультаты нашай працы найлепш відаць пры канцы школьнага года, калі арганізуем выстаўкі. Запрашаем на іх бацькоў і супольна падводзім вынікі працы. Найлепшыя працы высылаем на розныя конкурсы. Апошнія поспехі нашых мастакоў гэта вылучэнне прац Монікі Копец і Кшыштафа Бандарука на XI Міжнародным бенале графікі дзяцей і моладзі ў Торуні ў 1998 годзе, на які вучні ажно з 53 краін даслалі каля 11 тысяч прац. Свае працы на тэму сям'і, роднага дому і краіны выслалі мы таксама на II Сусветны конкурс дзіцячага жывапісу „Adi Art 98”, але рэзультатаў яшчэ няма.

— Думаю, што кожны вучань, які схоча наведаць наш дом культуры прыемна правядзе час на занятках ці гульнях, — кажа на развітанне дырэктар Сяргей Лукашук.

**(ам-з)**

# Ікона Уладзімірскай Божай Маці ў Кажанах


Царква ў Кажанах.

Над ракой Нарвай у XV-XVI стагоддзях узнікла шэраг цэркваў. У пісьмовых крыніцах згадваюцца цэрквы ў Целушках (Свяціцелях), Канюках, Рыбалах (Антановічах), Войшках, Завыках і Суражы. Кажаны, якія раскінуліся паміж Войшкамі і Суражам, былі населены рускім людам.

Цяжка ўстанавіць дату заснавання першай царквы, але з усёй упэўненасцю можна сказаць, што быў гэта праваслаўны храм. Да нашага часу захаваўся дакумент, які паходзіць толькі з 1621 года і адносіцца да ахвяраванняў дадзеных царкве чэсьнікам падляшскім Мацеем Лявіцкім. Надзяліў ён пароха 3/4 валокі грунту вольнага ад падаткаў апрача сенажаці і пашаў вакол царквы і тых зямель, якія былі перададзены ягонымі продкамі. З гэтага запісу вынікае, што царква існавала намнога раней, паколькі продкі чэсьніка надзялілі прыход грунтамі. Згаданы запіс быў зарэгістраваны ў гродскім судзе ў Суражы 20 верасня 1621 г. *после праздника Посещения Преславнейшей Девы Марии.* Сведчыць гэта аб тым, што шанаванне Божай Маці мела ў Кажанах доўгую традыцыю.

Ікона Божай Маці згадваецца ў *візіце* царквы ад 1773 г.: *... ołtarz drugi bokowy z obrazem Nayswiętszey Panny, Koron srebrnych 2 pozłocistych, Tabliczka srebrna 1, Koralow sznurkow 3, Bisiorkow mniejszych 3, większych sznurkow 5, zauszniczek bisiorowych para.* Згаданыя каштоўнасці былі прынесены ў якасці ахвяраванняў за атрыманую ад Божай Маці ласку. У Кажанах асабліва шанавалася ікона Божай Маці „Замілаванне". Да гэтага тыпу ікон належыць таксама ікона Уладзімірскай Божай Маці. Паводле традыцыі, прадстаўляе яна момант, у які Дзіцятка Ісус выяўляе Маці тайну сваёй смерці і ўваскрэсення. На твары Маці адлюстраваны боль, любоў і поўная аддаласць Божай Волі, паглыбленыя моцнымі кантрастамі святла і ценю. Позірк Марыі поўны здзіўлення, суму і задумы. Маці туліць да сябе Сына, акружае Яго любоўю і мацярынскай апекай. Гэта дае падставы меркаваць, што гэтая ікона стагоддзямі знаходзілася і цяпер знаходзіцца ў кажанскай царкве.

З 26 лістапада 1761 г. пры царкве працавала Брацтва Замілавання Божай Маці. Членамі Брацтва былі жыхары наступных вёсак: Злотнікі — 18 чалавек, Кажаны — 8, Чараўкі — 4, Дарошкі — 4, Заячнікі — 10 і Панькі — 4. Кажанскі прыход у 1835 г. страціў самастойнасць і быў падзелены паміж суседнія прыходы ў Рыбалах і Суражы. Царква была разабрана і ў 70-х гадах XIX стагоддзя перанесена на могільнік у Рыбалах. Тады ў Рыбалы трапілі дзве іконы — св. Юрыя ды Кажанскай Божай Маці — і званы. Другі раз царкву ў Кажанах пабудавалі ў 1883-1886 гадах. Па загадзе епархіяльных улад ікона Божай Маці і званы былі вернуты законнаму ўладальніку, а ікона св. Юрыя засталася ў могільнікавай царкве ў Рыбалах і знаходзілася ў ёй да 1965 г., г.зн. да часу, калі яе ўкралі невядомыя злачынцы.

Чарговае паведамленне аб Кажанскай іконе БМ паходзіць з канца XIX ст. Тады ў *Гродненском календаре* пісалася, што ў царкве знаходзіцца вельмі шанаваная святая ікона Кажанскай БМ. Яе вышыня — 1 аршын 12 вяршкоў, шырыня — 1 аршын 3 вяршкі. Ікона, напісаная на палатне наклееным на альховай дошцы, абкладзена была пазалочанай рызай. У царкоўным летапісе, які ў 1912 г. пачаў састаўляць тадышні настаяцель а. Мікалай Весялоўскі, запісана, што з правага боку кліраса ўківоце знаходзіцца Уладзімірская ікона БМ у срэбна-пазалочанай рызе. Яе вышыня — 1 аршын 13 вяршкоў, шырыня — 1 аршын 4 вяршкі. Прыведзеныя ў запісах ад 1899 і 1912 гадоў памеры іконы амаль ідэнтычныя, а розніца 1 вяршка, відаць, узялася з уключэння шырыні рамы. Сама назва Уладзімірскай іконы („Замілаванне") упамінаецца ў дакументах ад 1773 г. Аўтар летапісу адзначыў, што з 1906 г. пры царкве існуе Брацтва Божай Маці.

Ірэна Матус у артыкуле „Бежанства з іконай" апісвае як сям'я Алексюкоў, якая ў 1915 г. падалася ў глыб Расіі, выратавала Кажанскую ікону БМ. Вялікіх памераў ікона замінала б у падарожжы, але яны так моцна жадалі выратаваць дарагую іх сэрцу святыню, што вырашылі ўзяць яе з сабою. Дзеля гэтага зрабілі вялікую скрыню, у якой ікона даехала ў Екацерынбург і там была памешчана ў адной з цэркваў. Стаяла яна побач свечніка і ад высокай тэмпературы палаючых свечак учыніліся нязначныя пашкоджанні фарбы на запясці рукі. Пасля заканчэння I сусветнай вайны, у выніку вялікіх намаганняў, ікону ўдалося вярнуць у Кажаны. Прыхаджанін Ільля Аляксюк, які збярог святыню, памёр у 1963 г. Згодна з воляй нябожчыка, у апошняй дарозе спадарожнічала яму ікона Кажанскай Божай Маці.

Рашэннем Ваяводскага аддзялення Дзяржаўнай службы помнікаў у Беластоку ад 8 лістапада 1996 г. ікона была занесена ў рээстр помнікаў культуры. Апісана яна ў ім наступным чынам: *Ikona pochodzi z I połowy XVII w. Matka Boża przytrzymująca na swym lewym ramieniu małego Jezusa. Prawa dłoń MB na wysokości kolan Jezusa. Jezus dwoma palcami prawej, umieszczonej ręki wskazuje na matkę. W jego prawej dłoni księga. MB 3/4 zwrócono w prawą stronę. Chrystus ukazany frontalnie. Karnacje postaci w kolorze ciemno-ugrowym z dodatkiem brązu, róźu w partii policzka. Włosy Jezusa krótkie falujące ciemnobrązowe z dodatkiem barwy ugrowej. Napisy w alfabecie cerkiewnosłowiańskim w górnych narożach obrazu MATER THEN, na wysokości głowy Jezusa: JEZUS CHRYSTUS.* На ікону Божай Маці наложана металічная рыза з адтулінамі на твар, рукі і ступні Ісуса. Срэбна-залатая рыза паходзіць праўдападобна з XIX ст., а ківот выкананы быў ужо ў XX стагоддзі.

Адным з самых урачыстых святкаванняў у Кажанскім прыходзе з'яўляецца Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы, што паказвае на шматвяковае існаванне царквы і шанаванне ў ёй іконы Божай Маці. **(агс)**

# Вярнуўся на вялікую бяду

**Успаміны Мікалая ПЕТРУЧУКА з Трасцянкі, народжанага 14 лютага 1926 года.**



У пачатковую школу хадзіў я ў сваёй вёсцы і закончыў тут чатыры класы. Спярша вучылі двое настаўнікаў — сужонства Станіслаў і Браніслава Журавінскія. Пасля дайшоў трэці, прозвішча не помню, „Калочкам" мы яго называлі, бо быў невялікі і вельмі суровы; пазней дайшоў яшчэ адзін. Па далейшую навуку падаваліся толькі дзеці багацейшых бацькоў. З Трасцянкі былі гэта Філіпюк, Амельянюк, Божка, Астроўка, Стэпанюк і Богуш. Богуша бацька паслаў нават у прафесійную школу ў Беласток, але не змог аплаціць вучобы. Школа была дарагая, а да таго ж яшчэ даходзілі і дадатковыя аплаты, напрыклад за „двойку" трэба было заплаціць сто злотаў, а гэта ж пры санацыі была велічэзная сума.

Калі насталі саветы, яны сарганізавалі ў Трасцянцы васьмігодку, у якую хадзілі дзеці з навакольных вёсак. Было іх многа і трэба было арганізаваць напр. тры пятыя класы. Працавалі тут настаўнікі Барбара Баралік з Беларусі (яна навучала беларускай мове), Глушчанка з Расіі і траіх, яшчэ „царскіх", настаўнікаў з Трасцянкі; пры санацыі яны не маглі навучаць. Пры саветах я закончыў пяты і шосты класы. Калі насталі немцы, яны не арганізавалі ніякай школы.

У 1942 вызначылі мяне на прымусовыя работы ў Германію. З Трасцянкі было многа моладзі, а ў іх ліку пецярых маіх равеснікаў; многія ўцякалі, але пасля іх і так забралі. Завезлі нас заказнымі фурманкамі ў Міхалова, бо там тады была наша гміна. Трымалі там тры дні ў будзе за дратамі; есці не давалі, хто што з сабою меў, тое і еў. Пасля завезлі нас фурманкамі на станцыю ў Валілах, а адтуль поездам у лагер у Беласток. Там есці нам нічога не давалі — бацькі некаторым прыносілі; пад канец то я ўжо некалькі дзён галадаў.

Пасля трох тыдняў прыйшлі вахтманы, пагналі нас у вагоны-цялятнікі, якімі павезлі ў напрамку Кёнігсберга. Па дарозе наш транспарт папаў пад бамбёжку і многія тады ўцяклі. Давезлі нас у Тыльзіт, там у пасажырскія вагоны перасадзілі і так прывезлі ў Кёнігсберг. Завялі нас у *Arbeitsamt*, а там *купцы* прыходзілі і разбіралі нас. Я з Мікалаем Васілюком з Трасцянкі і Канстанцінам Клімовічам з Баршчэва папалі ў фабрыку ліманаду. Спярша зрабілі нам здымкі для *Arbeitskarte* (той здымак побач), а пасля завялі ў бюро. Я крыху ўмеў гаварыць па-нямецку, бо ў Трасцянцы пры саветах навучалі нямецкай мове, але ў бюро адзін немец звярнуўся да мяне па-польску:

— *Pokaż na mapie gdzie Niemcy!*

Я паказаў, яны пасмяяліся і далі мне пяць марак. Пасля адзін шафёр, што развозіў ліманад, забраў мяне да свайго дому на абед. Я пахваліў, што ніколі яшчэ такога смачнага не еў. Яны мяне спыталі чаго я прыехаў да іх, а я адказаў, што з мусу і гаспадыня літавалася нада мною:

— *Mein liebe Gott, mein Junge...* (Мой Божа, мой хлопча).

Закватаравалі нас у інтэрнаце, было там яшчэ траіх палякаў, а пасля дайшлі больш. Мяне любілі, бо малы быў: да шаснаццаці гадоў меў я *Kinderkarte* на прадукты, а пасля атрымаў ужо *Wochenkarte*. На заводзе я наліваў і каркаваў. Пры *Korkmaschine* адна немка, якая мяне вельмі любіла, прынесла мне крыху цукру і па няўвазе наступіла на педаль, у выніку чаго машына абрэзала мне палец на руцэ; месяц часу быў я на бальнічным. Пасля году працы атрымаў я *Urlaub*. І калі я ўжо быў гатовы да ад'езду, гестапа зрабіла ў нас рэвізію, бо адзін рускі рыхтаваў сабатаж. І ў маёй пачцы, якую я нарыхтаваў дадому, немцы знайшлі кухонныя прыправы і за тое я ў лагер папаў на шаснаццаць тыдняў. А адтуль зноў у кёнігсбергскі *Arbeitsamt*, адкуль папаў у пякарню, бо на старое месца не захацеў вяртацца.

У пякарні было мне вельмі добра. Спачатку чысціў я бляхі, цукар саскрэбваў. Працавалі са мною яшчэ два палякі: з Любліна і з Сувалкаў. Памочнікам майстра быў нямчук, але яго пасля некалькіх тыдняў забралі на фронт. Уласнік загадаў майстру назначыць новага памочніка: той спачатку вызначыў аднаго паляка, пасля другога, бо яны былі старэйшыя за мяне, аднак яны не спраўляліся. Майстар кажа гаспадару, што трэба каго новага шукаць, а гаспадар яму адказвае:

— Гэтага малога бяры.

— Як тыя нічога, дык і гэты не дасць рады.

Але гаспадар узяў мяне і паказвае як класці цеста. І я стаў класці.

— *Gut!* — сказаў гаспадар.

Я паклаў далей усё цеста, гаспадар пахваліў мяне і сказаў майстру ўзяць мяне на памочніка. Майстар навучыў мяне загатаўляць цеста паводле нормаў, важыць, трымаць тэмпературу ў печах. Печы награвалі брыкетамі — вельмі добрыя былі, пасля я ў Польшчы ніколі такіх брыкетаў не бачыў. Амаль увесь хлеб прадавалі ў гаспадаровай краме побач; толькі невялікую частку забіраў шпіталь. Праз нейкі час тыя два палякі, што са мною былі, укралі картакі на 15 цэнтнераў мукі ды паўцякалі, а я ўсю работу выконваў далей адзін. Я меў усе ключы, бо гаспадар давяраў мне.

Гаспадар служыў у нейкім вайсковым штабе і ў яго доме бывалі нават генералы. Калі савецкія войскі наблізіліся да Польшчы, ён жонку з сынам выслаў у Гамбург, а калі саветы набліжаліся да Кёнігсберга, ён узяў два мяшкі мукі і мяшок цукру і недзе выехаў. І ўжо не вярнуўся. Я з майстрам яшчэ нейкі час пяклі хлеб.

***(заканчэнне будзе)***

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Мог бы быць бойчым

— Чытала? — шалясцеў Косця разгорнутымі газетамі. — Значыць, нашы свінні знайшлі падтрымку ў Сейме і гуманітарна жыць пачнуць. Нават курка — найгоршая гультайка, бездакорна шкодніčаць можа.

— А ты што? Не ўсе дома? — глянула са здзіўленнем Марына, адрываючыся ад кудзелі.

— Замест хярнёю ад раніцы займацца, то пачытала б. Глянь! О, тут! — тыцкаў пальцам у газету, забыўшы, што яна па-польску ні бэ, ні мэ. — Нават задрыпанай куркі не зарубаеш.

Марына смяялася, вываліўшы вочы і не ведала — ці Косці нядобра сталася, ці толькі прыкідваецца. А той, водзячы зрэнкамі па радках, траскатаў, надаючы кожнаму слову важнасць: „У сувязі са зменамі законаў, сяляне не будуць магчы самі забіваць жывёлы нават на ўласныя патрэбы".

— Ну, то як то будзе? Значыць свінні нельга будзе паміраць натуральнай смерцю ад абуха ці швайкі, а прыйдзецца проста здыхаць? Га? — спыніла несвядома калаўротак Марына і заўзіралася на схіленага над газетай мужа. — То што то за Каляды ці Вяліндзень без каўбас і кутня? А адкуль сала або куньпу на сенакосы і жніво браць. Ну то што то... канец свету набліжаецца?

— Слухай: „У выпадку такой патрэбы неабходна майстра наняць са спецыяльнымі правамі, дазволам і прыладамі". Інакш штрафаваць будуць. Во, бачыла?

— Смешкі з мяне робіш, Косця? Га? Калі то праўда, то так, як за немца будзе. Толькі тады дазволу хапіла, а нашто зараз прылады? А што, яго швайка можа вастрэйшая ці чысцейшая за тваю? Пазаўчора солтыс нашу курку паленам забіў. То так, як бы яго за гэта судзіць можна было б?

— На тое выходзіць. Прэс-сакратар міністэрства сельскай гаспадаркі выразна заявіла, што ў гэтым годзе ўвайшоў у сілу закон аб ахове жывёльнага свету, дзе гаворыцца пра цывілізаваны ўбой жывёлы. Падрабязна растлумачыць гэта сам міністр.

— То аж так яно? Значыць, нашы свінні такія важныя, што аж сам міністр мусіць заступацца за іх?

— А ты што думала, так як у нас на музыках? У Еўропу з сякерай не ўпусцяць. У яе і сваіх бандытаў поўна. Цывілізацыя патрэбна. Цывілізаваны каструн, цывілізаваны калун, свая шаптуха, свая павітуха. Усё цывілізаванае.

— Выглядае на тое, што так, як было да вайны...

— Так і не. Да вайны Васіль Аксенціяў кастраванае парасё бярозавым попелам засыпаў, а цяпер бінтаваць будуць. Мала мець дрыг у руках. Патрэбная тэарэтычная падрыхтоўка з дазволам.

— Кажаш, нельга будзе самому сабе закалоць.

— Не толькі свіней біць, але і кароў, коней, коз, авечак, нутрый, хатніх птушак... Усё падвяргаецца гуманітарнай ахове. Пад адну меру.

— А трусоў?

— Трусоў па-ранейшаму можна забіваць самому.

— То так выходзіць, Косця, што ўся жывёліна роўная, але свіння раўнейшая. У чым жа вінаваты, скажам, трус, што яго можна надалей прачом па галаве лупіць, а свінню гуманітарна калоць? А цывілізавана забіваць, то, прымерна, гэта як? Нават швайкай?

— Вучыць цябе чытаць, Марына, ужо позна, але прынамсі, слухала б таго, што я табе гавару, прачытаўшы. Не ў швайцы справа, але ў гуманітарнасці, чалавечым падыходзе да свінні. Хочаш, напрыклад, зарэзаць цяля — ідзеш тады да ўпаўнаважанага спецыяліста і кажаш, што і як. Той паказвае табе расцэнку і ты плаціш. Вызначае дзень і часкай. Прыязджае, дае абязбольваючы ўкол і дэзыфікаванымі прыладамі рэжа або коле.

— А слухай, Косця, а калі б я так хацела курку на суп зарубаць, то таксама?

— Таксама! Толькі чорт адзін ведае: як яе там анестэзіраваць? Курку, хіба, газам, так як тхор...

— Але я не пра тое, Косця. Скажам, у нядзелю зяць з дачкою і ўнукамі прыедуць, а той цэлы бойчы, ці як там яго называць, зможа курку зарубаць толькі ў аўторак. То што тады? Відаць, самому трэба неяк, цішком...

— Штраф заплаціш. Уся жывёла будзе зарэгістравана і з кожнай нястачы будзеш тлумачыцца. Прыедзе табе такі бойчы, пройдзецца па хлявах і куратніках, і ясна як на далоні.

— Значыць яшчэ на аднаго хабарніка больш будзе. Так як з камінарамі — заплаціш належнае, каб толькі на дах не ўлазіў? Ну, не так? Праедзе раз у месяц па сваёй бойніцкай парафіі, збярэ грошы за пасведчанні, што звярына гуманітарна забіта, а селянін як біў, так і будзе біць. На адных курах колькі заробіць... Залатая прафесія. От, каб табе, Косця, так. Цэлай жа вёсцы калоў?

— Мяне не возьмуць, бо я прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. Падсудны бойчым быць не можа.

**Міхаль Пашкоўскі**

# Пару слоў пра невыслоўнае

Ніхто не хоча гаварыць пра... скажам, Нюсю. Балюча ўсім — сябрам, знаёмым, родным.

— Заўсёды шкада жыцця, найбольш маладога. Ну, хай бы хвароба, рак нейкі ці інфаркт, дарожная аварыя, але так — самому перацяць ніць свайго жыцця? — мяркуе цётка Зіна, якая ў адзін год страціла другога мужа, падчарку (43 гады) і зяця (36 гадоў). — Жыццё — дар ад Бога, і да яго таксама тычыцца запаведзь „не забівай". Падумаць трэба, пабаяцца Бога...

Жыць цяжка. Немагчыма. У чорным тунелі, які сціскае чалавека з усіх бакоў, душыць душу і цела, не відно святла. Надзеі, суцехі. І нікога ў той момант побач, або і ўвогуле, няма. І хоць ёсць людзі, якія гатовы табе памагчы, якія, можа, недаюць, што тварыцца ў тваёй душы... Але, папраўдзе, не ў змозе яны дапамагчы, бо „надаюць на іншай хвалі". Але большасць гэтага не бачыць і нават не прадчувае. А пасля кідаюцца ў дагадкі — чаму?!! Чаму так? Чаму ён?! Калі наступіў той момант? Мы ж толькі што ўздымалі з ім тост за Новы год?! Яна ж толькі што званіла ў Беласток з аўтамата, што стаіць непадалёк чагуначнага праезда... Выйшла з дому, здаецца, вясёлая, прыгожа апранутая... На працу ўзяў бутэрброды, тэрмас з гарачай кавай, каб хапіла да ранку... І не піў тае кавы, хоць тэрмас адкрыў, мышы разнеслі канапкі па астылым складзе. А ён сам вісеў пад бэлькай. Нават ліста не пакінуў. І яна не пакінула нічога. А той, чатырнаццацігадовы, адзіны сын у матулі, напісаў сваім каліграфічным почыркам: **Не вініце нікога**. А педагог, апора вучняў і ўзор для настаўнікаў, пасля смерці дзесяцігадовага сына паўтараў: „Андрушка кліча мяне" і падаўся за ім, у свае сорак тры гады... Людзі не хочуць верыць, не разумеюць, шукаюць адказаў...

Больш плётак ад праўды, бо праўда адна. А і тая, каб даць яшчэ адну хвіліну тым, што загадаў сабе памерці, магла б быць іншай.

Людзі чакаюць сенсацыі. Хоць на пару тыдняў. Ёсць цёткі, якія лічаць слёзы на тварах у час пахавання. Ёсць такія, якім уцеху робіць будаванне піраміды домыслаў і інтрыгі. Хто ад нуды шукае цікавага. Людзі някепскія, але калі раскрываюць газету, перабягаюць вокам загалоўкі і бяруцца за рэпартаж пра чужую бяду. За газету заплацілі і патрабуюць „жыцця". А на журналіста, што прыехаў распытаць, як усё маецца, глядзяць як на паляўнічага разам з гончым сабакам. Я асабіста цяжка адчуваю сябе ў такім становішчы. Найбольш балюча задаваць пытанні тым, каго бяда датычыць асабліва...

Пытаюся і ў Нюсіных сябровак.

— Калі вам не балюча, раскажыце пра яе.

— Я яе папраўдзе мала ведала, — кажа Аня. — Разляцеліся мы па свеце пасля матуры. Ёсць такія, што кожны дзень мне звоняць нават з Варшавы, але гэта вельмі блізкія сябры. Мы так і сазваніліся ўсе, калі даведаліся пра Нюсю, і сабраліся на пахаванне. Не адразу, бо Нюсю забралі на доследы. Была я на пахаванні, хоць качаў мяне грып. Было гэта такое маё першае пахаванне, маладога чалавека. Мой дзядзька таксама маладым памёр, але хварэў цяжка, і неяк прывыклі мы да тае думкі, што адыдзе назаўсёды. Хвароба, вядома, балюча, але чалавек неяк можа зразумець. Хоць кожная смерць, асабліва смерць маладога чалавека, заўсёды ў табе распальвае бунт, супраціў, прэтэнзіі да самога Бога: як мог такое дазволіць. Нягледзячы на прычыны..

— Званіла табе адна сяброўка. Перажывае. Кажа, што гэта ўсё з-за хлопца. Не прыехаў нават на пахаванне. Ёй вельмі прыкра, бо ён цяпер з ёю сустракаецца, ад лета. Быццам Нюся з-за гэтага. Яны вучыліся разам на студыі, а яна асталася адна...

— Я не хачу гаварыць на гэту тэму. Памойму, гэта не мела ніякага значэння. А калі і нават, то нельга, непрыгожа кранаць такое. Хлопец жа невінаваты, што нейкай яго сяброўцы нешта здавалася. Зрэшты, што мы можам ведаць... Можа сапраўды былі нейкія прысягі на жыццё і смерць... А яна ўсё заўсёды перабольшвала, рабіла з абы-праблемы „вілы", такая ўражлівая, спакойная дзяўчына, усё трактавала сур'ёзна... Мы ўсе сур'ёзныя, маладыя. Час такі. Хоць усе думаюць, што нам толькі гулі ў галаве. А нельга з такога рабіць сенсацыю. Кожны чуў, шкадуе. Літасці ёй не трэба, успамінаў. Не трэба гэтага чапаць. У нас такая просьба — у мяне, у маіх сяброў. Кіньце. Каму гэта трэба цяпер?

Праўда. **Міра Лукша**

# Акцыя

Гэтая падзея адбылася ў сапраўднасці, даўнавата але пры нашай памяці, а героі яе жывуць. Адна статная і прыгожая пяцідзесяцігадовая жанчына працавала на чыгунцы ў прыпушчанскім горадзе. Мела буйную фантазію, а ў жылах бурлівую кроў. Любіла раманы накшталт „Дваранскага гнязда". Закахаўся ў яе малады прыгожы машыніст лакаматыва, які меў хваравітую жонку. Прыгажуня не аставалася ў даўгу на яго позіркі і залёты. Муж не працаваў на „Хімічнай" і дом восем гадзін быў пусты. Былі месяца і час на сустрэчы ў абдымках і пацалунках у яе доме падчас мужавай адсутнасці.

Кабеціна гэтая мела зяця, які любіў зазірнуць у кілішак і яна яго за гэта часта дакарала і прабірала. А ён таксама працаваў на той жа чыгунцы і даведаўся, што сварлівая цешча мае свайго каханка і рашыў яе правучыць, каб такім шляхам адпомсціць за сваркі і павучэнні ад яе. Аднойчы расказаў пра ўсё цесцю і яны дагаварыліся, што калі каханак з'явіцца ў доме сваёй любоўніцы, тады зяць пазвоніць на фабрыку цесцю, каб той засціг няверную жонку.

Прыйшла тая пара, калі зяць прыпільнаваў і высачыў той момант, калі машыніст украдкам падаўся ў свае залатое месца. Ухапіў тады зяць трубку тэлефона, а той маўчыць: аварыя нейкая — як на злосць! Аднак не разгубіўся ён, а нейкім чынам забег на „Хімічную" і, задыхаючыся, кажа цесцю:

— Едзем, тата! Надышла пара, калі зловім каханкаў на гарачым учынку.

Знайшлі самаход і шафёру загадалі:

— Ляці поўным ходам пад указаны адрас і на нікога не зважай, бо гэта рашэнне на смерць і жыццё!

І паехалі, толькі ліхтарныя стаўбы замігацелі. А ў той дзень міліцыя праводзіла сваю акцыю і затрымлівала ўсе самаходы і матацыклы для праверкі. А тут ляціць адзін не зважаючы на міліцэйскі сігнал каб спыніцца. Значыць: нейкая нячыстая справа, калі ўцякае! І міліцыя паляцела наўздагон уцекачам на сігнале трывогі. Уцякаючы самаход спыніўся каля аднаго дома і старэйшы, дужы мужчына выскачыў з кузава і пачаў дабівацца да запертых дзвярэй. Міліцыянеры ўхапілі за рукі другога, маладога чалавека, які дабіваўся да акна.

— Што ўкралі і ў каго, а мо каго забілі, што перлі як дурныя не зважаючы на нашы сігналы!? — закрычалі міліцыянеры.

— Службова будзем гаварыць пасля, — адказаў ён, — а цяпер глядзіце на цуд.

І сапраўды: з акна выляцела нейкая вопратка і выскачыў голы малады мужчына проста ў абдымкі ахоўнікаў парадку. Але ў трывожнай гарачцы выкінуў ён на двор не сваю вопратку, толькі адзенне каханкі. І закрычаў у акно:

— Выкінь мае нагавіцы і плаўкі, а сваё забірай назад!

І швырнуў яе шмоцце ў акно, а яна выкінула яго скарбы. Меў ён шчасце, бо ў прысутнасці ахоўнікаў парадку не дастаў лупцоўкі ад каханчыных мужа і зяця. І ўсё кончылася добра. Да разводу не дайшло, бо ніхто пра яго нават не думаў: беларусы — мяккі народ і выбачаюць адзін аднаму нават сямейную здраду. Міліцыянеры не мелі яшчэ хіба дачынення з такім выпадкам і былі задаволены такім жывым цудам, бо маглі ўдоваль пасмяяцца. А гераіня-прыгажуня нічуць не збянтэжылася і на розныя зачэпкі адказвала:

— Мне гэта гонар, што закахаўся ў мяне прыгожы і на дваццаць гадоў малодшы мужчына і я гатова аддаваць такому сваё каштоўнае цела нават па некалькі разоў падрад, а анучы нейкаму не дам ані разу!

**Мікалай Панфілюк**

# Сяброў знаходзім у бядзе

Сардэчна дзякую спадару Уладзіміру Сідаруку за яго допіс п.з. „Напішаш пяром...” („Ніва” н-р 6), дзе мяне бароніць перад крытыкай спадара Мікалая Лук’янюка — „Рак палез уперад”. Спадар Сідарук пытае: ці ўжо настолькі М. Панфілюк слабы духова і „так лёгка мяняе свае погляды, што раз кагосьці лае, а потым аблаянага хваліць?” Што ж, мы людзі — слабыя, і часта падаем уніз і памыляемся, бо дасканалых няма на гэтай зямлі; дасканалы толькі Бог. Уладзіміра Сідарука ведаю я здаўна і цешуся, што маю такога вернага друга. Ён таленавіты і здольны чалавек, а яго артыкулы багатыя зместам.

Мо каму здаецца, што я ў сваіх адгалосках кагосьці лаю, але гэта няпраўда: гэта бурная палеміка і выяўленне маіх думак, якія не заўсёды падабаюцца чытачам. Я нават, калі каго і пакрытыкую, часта ўмею і пахваліць яго; вядома, калі на гэта заслужыць. Але думаю, што гэта цалкам не звязана з тым, што, маўляў, Панфілюк так лёгка мяняе свае погляды; яны ў мяне аднолькавыя! Хаця калісьці, не таю, мае погляды на акружаючы свет і на камунізм былі цалкам іншыя чым сёння. Сапраўды: што калісьці было мне белым (я быў верным камуністам), сёння гэты колер прадстаўляецца мне мізэрным і шэрым. І капіталізм не рай, і калі б камуністы трымаліся сваіх прынцыпаў і не было клікі царыкаў, дык ён — камунізм — прайшоў бы цэлы свет. А найгорша: камуністы аб’явілі вайну з Богам.

Праўду піша сп. Сідарук, што разважлівы чалавек робіць разважлівы крок і каб я меў гэта заўсёды ў сваіх генах і галаве, дык ніколі не дайшло б да непатрэбнай варожасці са спадаром Васілём Петручуком, нашым слаўным пісьменнікам. Не гневаюся я на спадара Мікалая Лук’янюка і лічу яго сваім другам ды верным і шчырым беларусам, якіх мала сярод нас. І надалей я, як і мой сябра Уладзімір Сідарук, застаюся верным сваёй „Ніве”.

**Мікалай Панфілюк**

# Пра публічнае тэлебачанне

Калі чалавек карыстаецца вольнай хвілінай і не мае чым заняцца, зараз жа з’яўляецца пытанне: „Як правесці час? Куды падацца?”

На вёсцы няма культурных устаноў. Не пойдзеш у кіно ці ў тэатр. Адзіным месцам адпачынку з’яўляецца вясковая крама. Там утопіш сваё гора ў пляшцы або банцы піва.

А што мне рабіць, калі за ім не прападаю? Да суседа не пайду, бо мяне не просіць. Сваякі адкінуліся, бо неяк не дагадзіў ім. Застаецца толькі адно — тэлебачанне.

А што там ўгледзіш?

Каб не „Навіны”, „Панарама” ці прагноз надвор’я, няма чаго і глядзець.

Праўда, ёсць яшчэ „Аграбізнес” (а ў нядзелю „Тыдзень”) — сельскагаспадарчыя навіны. Гэта цікава. Часам прыйдзецца паглядзець нейкі фільм, але ён так перабіваецца рэкламай, што аж моташна чалавеку становіцца.

Тэлебачанне, на маю думку, створана для людзей бізнесу і палітыкаў. А што застаецца грамадству? Адна халтура!

І як тут можна гаварыць аб адукацыйнай і выхаваўчай ролі публічнага тэлебачання, калі амаль штодзень аглядаем кінафільмы з „голымі бабамі”, у якіх забіваюць людзей. Ці гэта мэта выхавання маладога пакалення ў цывілізаваным народзе?

На маю думку, прыйшоў ужо час сказаць такім праграмам „не”! Першае слова сказаў Касцёл (а нават сам папа рымскі). Час пакончыць з парнухай, насіллем і гвалтам! На жаль, ніхто з кампетэнтных чыноўнікаў не адважыўся нічога адмяніць. Вядома, справа ў грашах.

Каб не рэкламныя аб’явы і ўсялякія „Аўдыётэле”, тэлебачанне даўно стала б банкрутам. Калі восенню мінулага года, у час сеймавай дэбаты, ставілася прапанова адмяніць закон, які дазваляе перабіваць рэкламай кінафільмы, падняўся крык у кіраўніцтве тэлебачання, што нельга на гэта дазволіць, бо зменшыцца прыбытак ад рэкламадаўцаў. Ды што тады можа сказаць звычайны грамадзянін і падаткаплацельшчык? На што мне плаціць кожны месяц за тэлебачанне, калі амаль ім не карыстаюся?

На маю думку, перабіванне кінасеансаў у тэлебачанні рэкламай гэта парушэнне правоў чалавека. Супраць такога закону выступаюць многія тэлегледачы, а іх погляды і прапановы змяшчае „Тэле-Тыдзень”. Як прыкмячаю, без рэзультату. Пэўна, доўга прыйдзецца нам чакаць „подыху вясны” ў публічным тэлебачанні, хоць у прыродзе яна хутка наступіць. Я ў гэтай справе песіміст!

**Уладзімір Сідарук**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 838. Аляксандр Лаўрыновіч (Гайнаўка) | 18,00 зл. |
| 4 839. Ян Якімюк (Гайнаўка) | 12,00 зл. |
| 4 840. Уладзімір Васілюк (Гайнаўка) | 18,00 зл. |
| 4 841. Аляксандр Бандарук (Гайнаўка) | 12,00 зл. |
| 4 842. Аляксандр Бандарук (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 843. Панцеляймон Мароз (Гайнаўка) | 31,00 зл. |
| 4 844. Віктар Бура (Гайнаўка) | 14,00 зл. |
| 4 845. Уладзімір Балтрамюк (Гайнаўка) | 18,00 зл. |
| 4 846. Мікалай Бушко (Гайнаўка) | 32,00 зл. |
| 4 847. Галена Бушко (Гайнаўка) | 36,00 зл. |
| 4 848. Міхал Туронак (Гайнаўка) | 20,00 зл. |
| 4 849. Юры Балтрамюк (Гайнаўка) | 30,00 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 3016.

# Спорт у Нараўцы

У гімнастычнай зале Пачатковай школы ў Нараўцы адбыліся турніры настольнага тэніса для школьнай моладзі і сеніёраў. Сярод пачатковых школ кубак дырэктара Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы заваявала Пачатковая школа ў Старым Ляўкове. У турніры прымала ўдзел 62 вучні, найбольш з Новага і Старога Ляўкова ды з Нараўкі. Кубак пераможцам уручыў дырэктар асяродка — Андрэй Скепка.

За кубак войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча змагалася 37 мужчын-сеніёраў. Быў гэта турнір даступны ўсім ахвотным з Гайнаўскага павета. Першае месца і кубак заваяваў 35-гадовы Яраслаў Ляшчынскі з Гайнаўкі. Другое і трэцяе месца занялі Рышард Анішчук ды Пшэмыслаў Леўша са Старога Ляўкова, а чацвёртае — Мечыслаў Грыц з Нараўкі.

**(гай)**

# Выстаўкі...

— пастэльных малюнкаў у Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы (вул. 3 Мая 45) можна глядзець ад 10 да 18 гадзіны (апрача нядзеляў),

— выстаўку прац маладзёжнай мастацкай групы „Дэфармацыя” пад загалоўкам „Чорнае і белае” ў Гайнаўскім доме культуры можна глядзець да канца лютага ад 8 да 21 гадзіны (апрача панядзелкаў).

**(гай)**



# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прыснілася мне, што ўлез я, усё ж такі пажылы чалавек, на высокае і вельмі прыгожае, разлажыстае дрэва, на самы верх узабраўся. Была гэта вішня і я палез зрываць спелыя ягады. Але ж высвятлілася, што гэта не вішні, а нейкая біжутэрыя — кліпсы, каралі і іншае. Усё гэта вельмі прыгожае, як бы перламутравае. Я гэта зрываю і кідаю на зямлю. Сарваў усё і па драбіне злез з гэтага дрэва, ды бачу, пад дрэвам чысценька, парадак. Пазбіралі гэта людзі, але якія, не ведаю. Зрабілі гэта ў добрых намерах, дапамагаючы мне. Гэтая біжутэрыя ўся для мяне.

І другі сон. Я на рабоце. Стаіць мой матацыкл з прычэпай, якім мы з супрацоўнікам і сакратаркай маем некуды ехаць. Прымерваемся, як сесці, хто дзе, але не паехалі. Так і прачнуўся.

Што абазначаюць гэтыя дзіўныя сны, адкажы мне, Астроне!

**Сцяпан**

Ну, даражэнькі Сцяпанка, і напужаў жа ты мяне. Ужо я быў сабраўся лаяць цябе. Куды ты, братка, палез?! Чаго цябе туды, на тое дрэва, панесла?! Думаеш, што калі яно прыгожае і разлажыстае, дык ужо ўсё добрае цябе чакае?! А не падумаў ты пры гэтым, што абазначаюць вішні?.. Ой, браце Сцяпанка, тыя вішні абазначаюць злачыннае каханне і незаконную сувязь. Во бачыш, як!

Ужо я быў сабраўся сарамаціць цябе: салідны чалавек у пажылым узросце, а ў галаве зялёнае. Табе ўжо час на печцы мо косці грэць, унукам байкі баяць, а ты тут такія рэчы вясніў! А мо ж ты ўцешыўся? Думаеш, што зараз жа паненка табе на калені ўскочыць?

А братачка, гэтага нават не спадзявайся. Лезучы на дрэва, ты меркаваў, што будзеш збіраць вішні, а там, бач, не вішні аказаліся, а біжутэрыя замест ягад. А біжутэрыя ў сне, ёю, братка, жыцця не падсалодзіш! Фальш і ашуканства прадвяшчае табе, залежнасць ад нейкіх людзей. А яшчэ ж твая біжутэрыя была перламутравая. Дальбог, братка, будзе нейкая сумная для цябе справа. А тыя людзі, што збіралі тую біжутэрыю для цябе, хай бы лепш не дапамагалі. Барані Божа ад прыяцеляў, а з ворагамі дам сабе рады! — кажуць разумныя людзі.

Справа, якая для цябе вельмі важная, на жаль, не выйдзе так, як ты хочаш. Бо і матацыклам вы не паехалі.

**Астрон**

# Зберагаюць традыцыю і тоеснасць

Ужо тры гады ў Рэгіянальным музеі ў Сямятычах дзейнічае Клуб народных творцаў. Члены клуба выконваюць прадметы дамашняга карыстання традыцыйным спосабам. Сярод іх шмат ткачых, вышывальніц ды народных вытворцаў плеценых вырабаў. Пераказваюць яны свае веды ды накоплены гадамі вопыт, цэлы багаты свет узораў і тэхнік дзецям, а таксама даволі часта сваім унукам.

Да народных творцаў у Сямятыцкай гміне належаць, між іншым, Анна Мантур, Магдаліна Мудэль, Зіна Кавальчук, Вольга Кавальская, Міраслава Кавальская, Яўгенія Калішук, Уладыслаў Калішук, Славаміра Калішук, Яўгенія Бобенка, Альжбета Рожук і Аляксандра Воранец; у Дзядковіцкай гміне: Яўгенія Баран і Люба Матысяк; у Нурэцкай гміне: Мар’я Кавальчук і Юлья Грабоўская ды ў Мельніцкай гміне: Аліна Плешук, Надзея Кярковіч, Вольга і Анна Лойка, Крыстына і Іаанна Аляксюк, Вольга Мартынюк.

**(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Міранові.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп’ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 marca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

**Пародыі**

## Парнас ля жаночых ног

*Парнас здаўна яму знаёмы,*
*дык ад калыскі ўжо паэт:*
*ён нат тады да ног дзявочых*
*па пожні поўз на тэт-а-тэт*

***Алена АНІШЭЎСКАЯ***

Да маіх ног паўзуць паэты,
Бо тут натхненне і Парнас.
Яны паўзуць з усяго свету
На Беласточчыну да нас.
Паўзуць Сакрат Яновіч з Барскім,
І Швед паўзе, і Петручук.
Я запрашаю, калі ласка,
Да маіх ног і нават рук.
Зубрыцкі Юрка і Шаховіч
Паўзуць хутчэй, відаць, за ўсіх.
Сіло накінь — ты іх не зловіш —
Яны шустрэй за маладых.
Ян Целушэцкі й Шатыловіч
Не адстаюць ад землякоў,
У іх настрой заўжды вясёлы,
Як не здзіўляцца з мужыкоў!
Паўзе Ян Чыквін па-пластунску,
За ім Руско паўзе, Саўчук.
І Юрка Баена з закускай,
І Панфілюк, і Лук'янюк...
Усе паўзуць да ног жаночых,
Пагладзіць хочуць, паглядзець.
Паўзуць і днём, і нават ноччу,
Хаця маглі б і пасядзець.
Да многіх ног паўзуць паэты,
Бо тут натхненне і Парнас...
Таму люблю я вас за гэта,
Бо я ніхто даўно без вас.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Адысей і Кірка

Шматлікія лічаць у нашым народзе,
Што шчасце найбольшае толькі
на ўсходзе.
Другім нешчаслівцам нязменна здаецца,
Што толькі на захадзе добра жывецца.
Здаўна тэма шчасця хвалюе людзей...
Вось месца яго стаў шукаць Адысей:
За сонцам магутным паплыў ён з надзеяй
І карабель направіў на выспу Ээю,
Дзе сонца заходзіць, — там Кірка
царыла:
Сядзела ў палацы і зёлкі варыла.
Убачыў дымок Адысей, цар Ітакі,
І адразу падумаў, што там вараць
прысмакі
І паслаў ён у разведку адважных герояў,
Бо пра пышны абед наш цар здаўна
мроіў, —
Такі, як варыла яму Пенелопа.
І пабеглі на дым той героі галопам.
У палацы іх Кірка за стол запрашае
І прышэльцам з усходу віно налівае.
А нашы героі пра ўвесь свет забылі
І чашу за чашай віна мора сушылі.
А варта тут ведаць, што Кірка-царыца
Каварнай і лютай была чараўніцай
І чмут напусціла на добрых гасцей,
Што сталі падобны яны на свіней:
Ужо рохкаюць толькі, не мовяць
як людзі,
З рукамі, насамі ляжаць у пасудзе,
А хто й пад сталом, быццам дзік
у калюжы...
Скацінаю сталі геройскія мужы.
У хлеў іх заперла царыца тады,
Падаслала салому, дала жалуды.
Адысей чакаў доўга герояў сваіх
І вырашыў сам за сябрамі схадзіць.
І рушыў у харомы, дзе Кірка жыла,
І выдаць герояў сваіх зажадаў.
Насустрач царыца яму выступае, —
Дачка бога сонца, палкая, яркая,
Шаўковыя косы спльваюць з плячэй;
Не можа адвесці герой наш вачэй!
Царыца яго у застолле заве,
А ён, у бяспамяцтве, выхапіў меч
І хоча нанесці царыцы удар.
Яна ж жа без страху гаворыць: Спадар,
Я вашае зброі нічуць не баюсь!
Усё-ткі: навошта нам весці вайну?
За мір я, братэрства, за шчасце людзей,
За дружбу народаў, за сілу ідэй!
Ітака-ээйская дружба — жыве!
Вазьмі, цар, у ножны схавай той свой меч.
Абнімемся дай, дарагі Адысей
Так як Аляксандр наш і цар Барысей
Пасля наладзім каардынацыю,
І звянчаем дружбу поўнай
інтэграцыяй!
Паслухаўся Кірку геройскі наш цар
І меч свой у ножны хаваць ён пачаў.
Ды меч той, у адсутнасць войнаў,
Заржавеў і не хаваецца у ножны.
Спалохаўся цар, а царыца заве:
Ты мяць будзеш ножны, а я —
гладзіць меч!
Меч гладкі у мяккія ножны прайшоў...
Аддала царыца міратворцу байцоў,
А праз тры кварталы міратворчай працы
З'явіліся у Кіркі Тэлеган і Лацый;
Апошні стаў бацькам лаціне і лацінам,
Сталіцы Італіі — шчаслівай краіны.

**Адам МАНЬЯК**

# Кароткі курс параноі

**Пад уладай дылетантаў**

Да рэвалюцыі ў Расіі было каля аднаго мільёна паразітаў-капіталістаў, банкіраў, памешчыкаў, генералаў і буйных чыноўнікаў. На зары гарбачоўскай перабудовы каманда паразітаў налічвала 30 мільёнаў асобна ўзятых тузоў. Гэту каманду і ўключыў Міхаіл Сяргеевіч у свой „працэс". І працэс пайшоў...

— Горбі! Горбі! — апладзіраваў яму свет. — Так трымаць!

Гарбачову не здзіўляюся — дылетант. Але каб свет захапляўся дылетантам? Адзін Рэйган кепікі строіў:

*— Мишель! Скажи, пожалюста, почему ты вибраль такой дольгий путь в капитализм? Не лютше коротше и бистро?*

*— Чего же медлишь, выкладывай, говори — как?* — гарачыцца Гарбачоў. — *Давай план — и я немедля пущу процесс в нужное русло!*

Рэйган змоўк. Сам быў дылетантам. Дыспут вопытных дылетантаў падслухаў пачынаючы дылетант Ельцын.

— Маніць артыст згарэлага тэатра, — намякаючы на мінулае амерыканскага прэзідэнта, падумаў Барыс Мікалаевіч, — і, выбраўшы крутыя сцежкі, павёў Расію ў Нікуды.

Ну, але гэты дылетант любую справу, нават стаўшы дворнікам, заваліць з трэскам.

Блізка відаць, ды далёка ехаць!

**Сідар МАКАЦЁР**

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:***

**Рэйганкі**

Выйшаў Рэйган на балкон
І глядзіць у Амерыку.
Зірк далей, за Балатон —
Руская істэрыка.

*— Михаил! Ах, Михаил! —*
Стогне Пугачова.
*— Леди Тэтчэр покорил!*
*Знайте наших! Здорава!*

Відаць, хоча рускі цар
Будаваць манархію.
Як кажуць у іх: — На здар!
Ці, як у нас: — Ху-ю!

За справу Горбі-Ельцына будзь гатоў!

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. прадаўгаваты сакавіты паўднёвы плод, 7. знак Задыяка, 8. пастраенне ў калоне ваенных па росту, 9. татэм аўстралійскіх абарыгенаў, 10. шырокая паласа з каляровага сукна, нашытая на форменныя штаны ўздоўж бакавога шва, 14. гара, да якой прычаліў Ной, 18. штат між Джорджыяй і Місісіпі, 19. кніжнае выданне з рэпрадукцыямі карцін або фатаграфій, 20. вялікая рака ў Паўднёвай Амерыцы, 21. заканадаўчы акт агульнанарматыўнага характару.

**Вертыкальна:** 1. адзінка вымярэння сілы святла, 2. Тэодар, нямецкі філосаф-неамарксіст (1903—69), 3. падоўжаная гладкая дошчачка, 4. спешная работа, выкліканая кепскай арганізацыяй справы, 5. горад на ўсходзе Галандыі, 6. горад на поўначы Чылі, 11. пашкоджанне машыны, 12. пракошаная паласа шырынёю ў размах касы, 13. манах, духоўны настаўнік, 15. ежа з сечанага мяса з начынкай, запечаная ў выглядзе батона, 16. чалавекападобны аўтамат, 17. памідор. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 2 нумара**

**Гарызантальна:** сваяк, прозвішча, аброк, абсяг, БДА, Беранжэ, Батранж, ЗША, ануча, калій, рэвалюцыя, Данія.

**Вертыкальна:** Гарвард, стоік, кошка, перламутр, Аўстралія, апека, геній, бэз, Аба, шэзлонг, абвод, куцця.

Рашэнне: **Што па той чэсці, калі няма чаго есці.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Касір у банку выплачвае пенсіянерцы пенсію старымі, панішчанымі банкнотамі.

— Спадзяюся, — гаворыць ён, — што вы не баіцеся бактэрый.

— Безумоўна; з мае пенсіі нават бактэрыі не ў змозе выжыць.

* * *

Суседка суседцы:

— На працягу мінулых пяці гадоў мела я столькі перажыванняў, што пастарэла на наступныя два.

* * *

— Бабулька, я не пайду дадому, а астануся ў цябе назаўсёды, — заяўляе ўнучка.

— А чаму ж ты не хочаш вяртацца дадому?

— Бо дома загадваюць мне вывучаць дурныя вершыкі.

— А якія?

— На тваё імяніны.

* * *

— Я хачу ісці з цёцяй! — заяўляе малы Мішка.

— А чаму ж ты хочаш ісці са мною? — пытае яго, выходзячы, цёця.

— Бо татка сказаў, што ў цёці збіраюцца старыя маляваныя малпы, і я хачу іх пабачыць.

* * *

Пенсіянер пераходзіць праз вуліцу. Паліцыянт намагаецца яго затрымаць, а калі гэта не ўдаецца, даганяе яго і пытае:

— Дзедка, ці вы ведаеце, што абазначае, калі я падымаю руку?

— Ведаю, даражэнькі, ведаю; я палову свайго жыцця працаваў настаўнікам.